

Віталіс Сарасек → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Новае выданне → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3010) Год LIX | Беласток, 19 студзеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Куцця ў школьнай сям'і

**Непублічная падставовая школа ў Арэшкаве падтрымлівае раней выпрацаваныя традыцыі і выходзіць з новымі прапановамі. Школьныя мерапрыемствы ладзяцца ў коле вучняў, настаўнікаў, бацькоў і сямейнікаў дзетак, а ў час летніх мерапрыемстваў, арганізаваных на паветры, школа адкрытая таксама на астатніх жыхароў. Гэтая адукацыйная ўстанова з'яўляецца культурным цэнтрам для Арэшкава і суседніх вёсак. Вядзе яна дзейнасць з улікам мясцовай традыцыі і беларускай культуры. Арганізаванне Куцці перад Раством Хрыстовым, святкаваным паводле старога стылю, стала ўжо ў арэшкаўскай школе традыцыяй. У адзін з перадсвяточных дзён вучні выступаюць з мастацкай часткай і спяваюць калядкі, а пасля разам з сямейнікамі і настаўнікамі сядаюць за стол і падмацоўваюццаноснымі стравамі.**



Прадстаўленне «Цар Ірад»

фота TVK Hajnowka

У гэтым годзе супольную Куццю арганізавалі ў Арэшкаве 3 студзеня пад наглядам дырэктар школы Тамары Крайнік. Мерапрыемства ўдастоіў настаяцель праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, які вядзе ў школе заняткі праваслаўнай рэлігіі.

— Нашую сустрэчу мы падрыхтавалі вялікай школьнай сям'ёй. У падрыхтоўку апрача дзетак ангажаваліся настаўнікі і бацькі, якія паклапаціліся пра поснае харчаванне, — заявіла дырэктар Тамара Крайнік.

У час Куцці вучні запрэзентавалі на беларускай мове прадстаўленне «Цар Ірад», да якога рыхтаваліся пад наглядам настаўніцы беларускай мовы і пачатковага навучання Ірэны Герасімюк. Бацькі дапамаглі выканаць уборы, рэквізіты і сцэнічнае афармленне. У гімнастычнай зале, дзе адбываліся выступленні, стаялі і віселі зялёныя ёлкі, на сабраных спазіраў Мікалай, а пад столлю былі падвешаны зорачкі і каляровыя ланцужкі. Выцінанкі знаходзіліся на шыбах, а ў цэнтральным месцы вісела ікона Божай Маці.

— Мы пачалі рыхтаваць прадстаўленне «Цар Ірад» яшчэ ў лістападзе мінулага года з усімі вучнямі III-VI класаў. З іншым рэпертуарам выступілі ўсе наймалодшыя дзеткі. Вельмі важна, што ўсе вучні маглі запрэзентавацца перад бацькамі і публікай, бо такія выступы інтэгруюць нашае асяроддзе, — кажа настаўніца Ірэна Герасімюк. — У мінулых гадах вучні паказвалі традыцыйную Куццю і калядаванне па хатах, а ў гэтым годзе мы рашыліся паказаць прадстаўленне «Цар Ірад», сцэнарый якога я знайшла ў інтэрнэце. Змаганне анёлаў і нячыстых сіл канчаецца паразай апошніх. Смерць прыйшла за царом Ірадам, на якую ён заслужыў рашэннем забіваць нявінных віфлеемскіх дзетак.

Школьны музычны калектыў «Вясёлыя ноткі» праспяваў на беларускай мове калядкі «Званочкі» і «Каляда» і выступіў з рэпертуарам, які прадвяшчаў хуткае святкаванне Божага Нараджэння. Спявалі таксама іншыя дзеткі, прэзентавалі кароткія сцэнкі. У арэшкаўскай школе трымаюцца прынцыпу, што ўсе дзеткі павінны паказацца перад бацькамі, якія будуць мець магчымасць парадавацца іх выступамі. Свае акцёрскія здольнасці асабліва паказалі Магдалена Мішчук, Малгажата Галёнка і Марыюш Красько, але самай важнай была супольная гульня перад публікай.



Протаіерэй Лявонцій Анхім па-беларуску прачытаў фрагмент Евангелля

— Куццю арганізуем у перадсвяточнай атмасферы. Ёй прымеркаваны выступленні, посны стол і спяванне калядак. Важна, што вучні ахвотныя выступаць і ўсе маюць магчымасць запрэзентавацца перад публікай, бо ў большых школах выступае толькі частка дзетак, — заявіла дырэктар Тамара Крайнік.

— Мы доўга рыхтаваліся да выступаў, бо хацелі, каб добра атрымалася нашае прадстаўленне. Бацькі дапамаглі нам выканаць уборы, — сказалі Наталля Ніканюк і Марыя Варанчук.

— Мы вельмі любім спяваць. З калядкамі, якія мы развучылі пад наглядам нашага музычнага апекуна Марты Вершка, мы будзем выступаць на калядным аглядзе ў Гайнаўцы. Любім заняткі беларускай мовы і цікава нам было выступіць па-беларуску, — заявілі спявачкі з «Вясёлых нотак» Віялета Смолюк і Зузя Мішчук.

Настаўніца Марта Вершка дабавіла, што школьны калектыў мае намер выступіць з беларускімі калядкамі ў час каляднага агляду ў Беластоку. Другую частку школьнай сустрэчы састаўляла традыцыйная Куцця, з вялікай колькасцю посных страў, якую папярэдзілі супольныя малітвы. Протаіерэй Лявонцій Анхім па-беларуску прачытаў фрагмент Евангелля ад Мацвея датычны моманту Нараджэння Хрыстовага. Сабраныя памаліліся і з'елі па кавалачку просвіры. Перад тым, як сесці за святочна прыбраны стол, айцец Лявон блаславіў ежу і пажадаў радасна святкаваць Божае Нараджэнне.

— У нашай традыцыі Куцця займае важнае месца, бо папярэджвае Божае Нараджэнне, а Ісус — Збаўца людзей — прыйшоў на Зямлю да кожнага з нас. Сённяшні посны стол і спяванне калядак уводзяць нас у атмасферу Раства Хрыстовага, — сказаў да сабраных айцец Лявонцій Анхім.

Да вучняў, бацькоў і настаўнікаў з цёплымі святочнымі пажаданнямі звярнулася дырэктар Тамара Крайнік, якая кіруе школай з верасня мінулага года. Раней каля дзесяці гадоў была яна дырэктарам Падставовай школы ў Арэшкаве, пачынаючы з 1991 года, працавала тут таксама настаўніцай і добра ведае мясцовых людзей, а частка бацькоў цяперашніх дзетак была яе вучнямі. Сабраныя елі куццю і посныя стравы, супольна спявалі калядкі і размаўлялі аб надыходзячых святкаваннях. Беларускай мове бацькі сённяшніх вучняў вучыліся ў школе, якая размяшчаецца ў вялікім мураваным будынку, а зараз на ўрокі беларускай мовы ходзяць іх дзеткі. Прыгожа яны выступаюць па-беларуску ў час школьных мерапрыемстваў і дабіваюцца поспехаў на беларускіх конкурсах.

— Нашыя дзеткі вельмі ахвотныя дэкламаваць на беларускай мове, рыхтуюцца да «Беларускай гавэнды», любяць спяваць па-беларуску, — заявіла настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк.

Выступаючы на беларускай мове вучні захапілі ўдзельнікаў Куцці. Падчас зімовага мерапрыемства дзеткі вучацца мясцовым традыцыям, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Школьная Куцця — важнае ў адукацыйным плане мерапрыемства, паколькі знаёміць з жыццём у мінулым.

— Мы, мамы, рашыліся падрыхтаваць на школьную Куццю стравы і падзяліліся работай. Зварылі боршч з грыбамі і боршч з чырвоных буракоў, падрыхтавалі варэнікі з капустай і грыбамі, аладкі з макам і посныя кракеты. На сталах ёсць рыба і селядцы, посная тушаная капуста і традыцыйны кампот з сушаных фруктаў. Выканалі стравы, якія дома рыхтуем напярэдадні Раства Хрыстовага, ну і, канешне, нельга было абысціся без куцці з макам, — пералічвала Наталля Суліма. — Дома крыху яшчэ папрацавалі, рыхтуючы касцюмы на сённяшнія выступы дзяцей. Прыемна было паглядзець, як яны стройна прэзентаваліся перад публікай.

— Важна, што мы святкуем супольна, разам з дзеткамі і настаўнікамі, што стала ў нас традыцыяй. У нас ёсць магчымасць паглядзець выступленні нашых дочак і сыноў, можам паразмаўляць паміж сабой. Мы інтэгруемся ў адну вялікую сям'ю. Сёння мы прыйшлі без нашых мужоў, але на школьную ёлку хочам прыйсці ўжо разам з мужыкамі, — сказала Іаанна Куптэль.

Куццю завяршыла супольнае спяванне калядак.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Жыць па сродках

Ну вось дачакаліся! А то ўсё думалі, гадалі, напружвалі фантазію, каб прадказаць, які ж падарунак гэтым разам нам падкіне ўлада на навагодняя і калядныя святы. На першым месяцы па ўсіх прагнозах, канешне, быў долар. Усенародный падзеяй стала акурат чаканне імклівага скачка курсу долара. Яго рэзкае павышэнне некалькі гадоў таму засталося не толькі ў памяці людской, але хіба што нават у крыві. Памятаюць жыхары Сінявокай, як зялёны скочыў так высока, што нацыя, мабыць упершыню, так хутка і адначасна працверазела пасля навагодняй гулянкі.

Таму жыхары стабільнай краіны перад святамі не паленаваліся паштурмаваць абменнікі, каб памяняць купюры свайго нацыянальнага банка на якія-небудзь іншыя. Але перапалох быў дарэмны. Валюта, як і чакалі, хоць і не стаяла на месцы, рвалася да новых вышынь, але не так панічна як яе скупшчыкі. За яе гэтую работу зрабілі кошты ў крамах. Яны падміргнулі валюце і зрабілі сваю справу з сарказмам ды іроніяй.

Ну а што на гэта кіраўніцтва краіны? Розныя прыдумкі ўрада, такія як падатак з аўтамабілістаў, і своечасова падкінутая Расіяй чарговая пазыка, дапамаглі зрабіць добры выраз пры вядома якой гульні. А што яшчэ яны прыдумаюць у будучым! Ад ідэі пабораў за тое, што не маеш працы, яшчэ не адмовіліся. І іншыя прыдумкі як сарваць грошы са свайго грамадзяніна знойдуцца. Фантазія ў гэтым кірунку ў кіраўніцтва працуе актыўна. І толькі ў гэтым кірунку. Але нават і тут не ўсе слугі народа сталі моцна маркоціцца пра той прыстойны выраз твару пры халера ведае якой гульні.

Сам галава адміністрацыі на семінары ідэолагаў заявіў, што ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі жыхарам Сінявокай трэба навучыцца жыць па сродках і цаніць тое, што ёсць. І заявіў, што яго ўражвае нежаданне людзей працаваць і зарабляць грошы. І што многія маюць завышаныя патрабаванні да ўзроўню жыцця і дабрабыту. Таму ідэолагі мусяць вярнуць людзей у рэаліі сённяшняга дня і паставіць іх у такія ўмовы, дзе кожны будзе зарабляць сваёй працай і розумам і плаціць па поўнай за тое, што мае. Вось так.

Падарунка мы ўсё ж дачакаліся. З Калядамі і Новым годам беларусы!

Большы цынізм прыдумаць цяжка! Калі гэта беларусы сталі гультаямі?! Адкуль гэтыя звесткі, што нашыя людзі не жадаюць працаваць і зарабляць грошы? У нас што, на прадпрыемствы рабочыя не выходзяць? А тыя, што выходзяць, можа толькі сядзяць ды кураць і нічога не робяць? Ці можа ў нас землі сялянамі закінутыя і пустуюць? І ніхто на іх не сее і не збірае ўраджай?

Як у высокапастаўленага чыноўніка язык павярнуўся сказаць такое?! Можа ён не ведае, што пасля распаду Савецкага Саюза менавіта Беларусь лічылася найбольш перспектыўнай рэспублікай у эканамічным плане. Можа ён не памятае, з якім энтузіязмам нашы людзі кінуліся здабываць дабрабыт сабе і сваёй краіне? Варта толькі было рынкавую эканоміку запусціць і крочыць у Еўропу. То можа варта прыпомніць, хто агітаваў гэтага не рабіць!

Можа акурат тыя ідэолагі, перад якімі выступаў кіраўнік адміністрацыі, якраз і жывуць не па сродках? Бо акурат яны нічога не вырабляюць, а заробак атрымліваюць. Як і тая безліч АМАПу, колькасць якога перавышае ўсе фантазіі. І тая колькасць чыноўнікаў, якія маюць і заробкі, і кабінеты, і сувязі... Вось толькі ці кожны з іх карысць прыносіць?

А народ у нас як абрабляў зямельку, так і абрабляе, як выраблляў дэталі, так і вырабляе, як працаваў, так і працуе. І вось зараз яго зрабілі вінаватым. Жыве, маўляў, ён не па сродках. Можа яму гэтыя сродкі з казны на галаву задарма сыпліюцца? Хто яму іх дае? Хто яго ашчаслівіліве нізашто? Ці можа ўсё наадварот. Ён сам свае сродкі зарабляе сваім мазалём. І калі бяздарныя кіраўнікі не ў стане палепшыць сітуацыю на прадпрыемствах, то яго за што вінаваціць? Можа проста, трэба ж каб быў нехта вінаваты.

Раней ва ўсім была вінавата апазіцыя. Але яе знішчылі. Тое, што засталося, апазіцыяй назваць цяжка. То цяпер вінаваты народ. Нехта ж мусіць быць вінаваты. Заклікаюць яго жыць па сродках, якіх то ўжо і няма, як і той апазіцыі.

Ну а хто будзе вінаваты, калі і народа не стане?

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пячорны эксперымент



У канцы мінулага года я пачаў смярдзець. Свядома і наўмысна. Ад таго, калі маю ванну прысвоіў павук, здаецца, з віду даўганожак, я адмовіўся мыцца пад душам. Адчуваючы сябе эколагам (выключна эколагам, спадар Хлябіч з Нараўчанскай гміны!), аддаў прыярытэт для ягонага, дарэчы, клапотнага існавання, за кошт стэрыльнага культу цялеснасці і нарцыстычнага гігіенізму, якім я паддаўся ў апошнія гады. Але ці толькі я?

Прызнаюся, што пастаялец у маёй ванне гэта не адзіная прычына, чаму я пачаў косіцца на купанне. Я ніколі не здаваўся тэрору водарных свечак, экспансіі ладаннага дыму, штучных аэразольных дэзадарантаў распыльваных ад світання да захаду — гэтай арамафобіі, што асацыюецца з каджэннем чалавечага трупа. Я заўсёды падазраваў, што за іх духмянай заслонай хаваюцца бруд, неахайнасць, лянота. Вырашыў, што пара на пячорны эксперымент.

Дом, які я памятаю з дзяцінства, напоўнены быў толькі пахам васкаванай падлогі, свежапамытымі фіранкамі і... незабыўных страў, якія рыхтавала ў чысценькай кухні мая мама. Менавіта дзякуючы ёй над культурны санітарызм прымушаны сучаснай цывілізацыяй, над сінтэтычны дух дэзадарантаў, рэкламаваных у тэлебачанні перспірантаў, адэкалонаў і іншых «дзікавонаў», прадстаўляю асвяжальны водар раніцы, кветкавы букет поўдня і п'янкія водары вечара. Я вораг цывілізацыі духоў, культу вечнай маладосці, аховы здароўя прасякнутай дабаўкамі, стымуляванай стэроідамі фізічнай формы, паводзін зматрыцаваных рэкламай і гламурнымі часопісамі, зняважанай ботаксам і сіліконам красы аднолькавых твараў, грудзей, жыватоў, азадкаў — таго сезоннага дыктату моды і касметычных кампаній.

Робататэхніка людзей гэта не плод уяўлення стваральнікаў пад знакам навукі-фантастыкі. Гэта факт. Усё больш і больш жадаем таго, чаго жадаюць для нас буйныя канцэрны: СМІ, касметычныя, электронныя, тэлефонныя, адзення і турызму: новых гаджэтаў, новых ліній моды, новай касметыкі, наступнага экзатычнага падарожжа, кулінарных праграм. Рэальнасць, у якой мы існуем, не перавышае прасторы рэкламнага паведамлення, маркетынгавай стратэгіі, піяраўскага фармату. Гэтая штучна сфабрыкаваныя рэальнасць фарміруецца карпаратыўна-медыйным альянсам. Праўдападобнай робіць яе стандартызацыя чалавечых імкненняў і патрэб. Бяздумна гонімся за славай, поспехам, модай, тэндэнцыямі. Каб не выпасці за край. Гонка да дасягнення статусу, калі не селебрыцкай акулы, то па меншай меры карпіка ва ўласнай сажалцы, здаецца быць універсальнай. Але жыццё на вяршыні, на хвалі прымушае да серфінгу на паверхні рэчаў. У каго ёсць час для больш глыбокага аналізу? Захутка ў рэальнасці СМІ наступаюць змены. Тое, што было модным у першай палове дня, вечарам ужо састарэлае. На модных подыумах клетка гоніць палоску, на вуліцах новая мадэль айпода пераганяецца з новай мадэллю планшэта, новая лінія духоў з новай лініяй духоў, адпачынак на Сейшэльскіх выспах з адпачынкам на афрыканскім сафары... Таму большасць з нас размывае за сабой сляды прыродных водараў, душыць рысы, якія не ўпісваюцца ў канон гламурных канонаў, тушыць прыроджаную сабе самому энергію індывідуалізму.

Дражніць мяне культура санітарызму, дамінуючая ў сучаснай цывілізацыі. Дражніць пандэмічны ўжо псіхоз ненатуральнай чысціні, нянавісці да мікробаў, гэтых першасных сабратаў нашай эвалюцыі. Дражніць агульная непрыязнасць да прымітыўных форм жыцця: бактэрый і вірусаў. Існуе тэорыя, што развіццё гэтак званых шэрых клетак магло быць магчымым толькі пры актыўным абмене бактэрыямі і генамі чалавека. Хто ведае, ці орган чалавечага мозгу не з'яўляецца канчатковым прадуктам іх прасімбіёзу?

У Шчодры вечар я не стрываў больш уласнага смуроду. Павука асцярожна дастаў з ванны і перанёс на падлогу. Я спадзяваўся, што знойдзе ён для сябе бяспечны прытулак. Больш я ім не займаўся. Выйшаўшы з-пад душа, насунуў купальныя тэпцікі. Нейкі смецючок прычапіўся да падэшвы аднаго з іх. Гэта быў мой павук. Вось, які з мяне эколаг, чорт вазьмі. Захацелася мне пацаца!

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца



# Планы на фоне выбараў

Ваяводская ўправа Падляшскага ваяводства падвяла вынікі мінулага года і — як гэта каліс казалі — намеціла планы на бягучы год. З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя ў прысутнасці дырэктараў дэпартаментаў Маршалкоўскай управы. Маршалак Яраслаў Дважанскі пачаў, не хаваючы гонару: «Мы з'яўляемся найменш завінавачаным рэгіёнам у краіне». Таксама адзначыў, што «далёка ідучая асцярожнасць у гэтых адносінах не ідзе тут часта са здаровым сэнсам, але з улікам фінансавага становішча краіны і свету, паказваецца памяркоўнасць».

Пералічыў прыярытэты на гэты год: «Адной з самых важных спраў з'яўляецца забеспячэнне нашага рэгіёна ў электраэнергію. На аснове канструкцыі энергетычнага моста паміж Польшчай і Літвой мы будзем пашыраць нашу сетку. Іншым важным элементам з'яўляецца будаўніцтва газаразмеркавальных сетак».

Іншымі прыярытэтамі ў гэтым годзе маюць быць развіццё тэлекамунікацыйнай інфраструктуры і садзейнічанне навуцы, звязанай з патрэбамі эканомікі. Надалей прыярытэтна будзе разглядацца развіццё транспарту. Як было абвешчана маршалкам, на працягу трох гадоў павінна быць завершана аўтамагістраль S-8 (Беласток — Варшава). Паводле паведамлення Еўракамісіі, дзякуючы грашам ЕС, можна будзе пабудаваць еўрапейскія маршруты: аўтамабільную «Via Baltica» ад мяжы ваяводства ў Аўгустаў і чыгуначную «Rail Baltica» (адрэзак Садоўнае-Венгерскае — Беласток). У планах таксама мадэрнізацыя ваяводскіх дарог, напрыклад, з Беластока ў Супрасль і далей у Крынкі. У бліжэйшыя месяцы маюць быць мадэрнізаваны ўчасткі дарог: Астражаны — Сямятычы ці Міхалова — Юшкаў Груд. Планы таксама датычаць чыгункі. Маршалкоўская ўправа купіць два цягавыя блокі, а тры рэйкабусы будуць адрамантаваны і стануць курсіраваць, між іншым, у Кузніцу-Беласточкую.

Я не вытрымаў і запытаўся падчас прэс-канферэнцыі аб тым, што з падбеластоцкім пасажырскім аэрапортам, асабліва пасля нядаўняй аб'явы намесніцы прэм'ер-міністра і міністра інфраструктуры Альжбеты Бянькоўскай, што ў Польшчы такія новыя аэрапорты больш не будуць будавацца. Маршалак Дважанскі не пакінуў ніякіх ілюзій — задума будзе прыпынена: «У гэтым выпадку я не з'яўляюся ані чараўніком рэальнасці, ані адвакатам д'ябла».

Я не адмовіўся таксама спытацца ў маршалка аб яго пазіцыю ў справе падзелу выбарчых акруг перад сёлетнімі, восенькімі самаўрадавымі выбарамі і стварэння адзінай выбарчай акругі, якая б ахапляла раёны, населены ў значнай колькасці беларусамі. Яраслаў Дважанскі сказаў:

«У канцы мінулага года адзін з левых радных падаў дакумент у гэтай справе да старшыні сейміка. Я атрымаў копію. Гэтая змена мела б закрануць пятую пяцімандатную паўднёвую акругу, якая ахоплівала б Высока-Мазавецкі, Замбраўскі, Сямятыцкі і Бельскі паветы і найбольшую акругу — чацвёртую: Беластоцкі, Монькаўскі, Сакольскі і Гайнаўскі паветы. Разам з гэтым дакументам кіруюць да нас свае дакументы па гэтым пытанні радныя мясцовага самакіравання (радныя Гайнаўскага павета — М. Х.). Цяпер чакаем распараджэння ваяводы аб колькасці выбіраных ваяводскіх радных, то-бок, пра колькасць мандатаў, што звязана з колькасцю жыхароў у канцы года, які папярэднічае выбарам. Ваявода, мабыць, апублікуе такі дакумент у канцы студзеня, мабыць, у пачатку лютага. Тады пагавару з выбарчым камісарам у якой ступені мы можам тут рухацца, а затым нейкія рэкамендацыі прадстаўлю Управе. Але я не спадзяваўся б нейкай рэвалюцыі адносна стварэння выбарчых акруг, якія, аднак, каму-небудзь і нейкім чынам давалі б прэферэнцыі. Я далёкі ад такіх рашэнняў. Калі наша рашэнне можа нешта ўпарадкаваць, ідучы насупраць рашэнням нашага парламента, мы, вядома, гэта зробім. Канчатковае рашэнне прымае сеймік, а ён моцна палітызаваны, і аб гэтым таксама трэба памятаць (большасць мае кааліцыя ГП-ПСЛ, а маршалак Дважанскі выводзіцца з ГП — М. Х.).

Даведка. Артыкул 462 Выбарчага кодэкса кажа наступнае: «Злучэнне паветаў не можа парушаць грамадскіх сувязей, якія злучаюць выбаршчыкаў, што належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей, пражываючых на тэрыторыі аб'ядналых паветаў».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Віталіс Сарасек — забыты мастак з Саколкі

**Віталіс Сарасек** (1945-2012) належыць да тых творцаў, пра якіх маўчыць інтэрнэт (нават усёведная Вікіпедыя). Хаця ў 1970-х гадах закончыў Акадэмію мастацтваў у Варшаве, цяжка паглядзець яго-ныя карціны ў галерэях. А імі захапляліся вядомыя мастацтвазнаўцы. Маўчыць аб ім яго родная Саколка, якую маляваў праз апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця. Віталіс Сарасек гэта мастак зусім забыты Варшавай, якая была надта далёка, каб яго заўважыць, і Саколкай, якая была надта блізка, каб належна ацаніць яго творчасць.

## Віталіс

Віталіс Сарасек нарадзіўся ў Саколцы. Закончыў навуку ў Пластычным ліцэі ў Замосці і варшаўскую Акадэмію мастацтваў. Па вуліцы Грахоўскай меў сваю майстэрню, у якой часта бывалі сучасныя мастакі Варшавы. Гэтае месца любіла таксама Марыя — муза Сарасека, для якой кінуў першую жонку. Да сённяшняга дня некаторыя карціны з выявай маладой Марыі вісяць на сценах іхняй хаты ў Саколцы. Творчасцю Сарасека захапляўся вядомы гісторык, мастацтвазнаўца Войцех Краўзе. У часопісе «Przegląd Artystyczny» ў тэксце пра дэбют выпускнікоў Акадэміі мастацтваў піша: «Szczególnie zajmujące wydają się mi przedstawiające kompozycje Witalisa Sarosieka. (...) Z wielkim uznaniem podkreślam dojrzałość [Сарасека — У. Ш.], którego obie kompozycje podobały mi się najbardziej ze wszystkich». Гэта якраз яго імпрэсіяністычныя працы лічацца аднымі з найлепшых ягоных карцін. Віталіс Сарасек у 1990-я гады вырашыў пакінуць усе асяродкі мастацкага жыцця і ствараць самабытна ў роднай Саколцы. Тады для Віталіса пачаўся зусім іншы творчы перыяд.

## Манька

Віталіс назваў яе «Манькай». Так «папростаму». Хаця ў Саколцы здзіўляліся як такой мянушкай можна называць варшавянку, гэта той жа Маньцы спадабалася. «Імя Марыя ніколі да мяне не пасавала», — тлумачыць. Марыя, якая ўжо дваццаць гадоў жыве ў Саколцы. Кінула Варшаву і не шкадуе. Падкрэслівае, што вельмі многа атрымала для сябе. «Жывучы ў Варшаве, я не ведала што гэта сувязь між жанчынай і мужчынам. У Саколцы нам хапала часу на размовы, прагулкі».

Яе прадзед быў уласнікам капальняў солі ў Румыніі. Адгэтуль сям'я з'ехала ў Аўстра-Венгрыю. Дзед, доктар юрыдычных навук, апынуўся ў Лодзі. А ўжо бацькі Марыі, хаця пасля варшаўскага паўстання збеглі ў Лодзь, пастаянна жылі ў Варшаве. Марыя працавала ў Доме культуры на Старым Месце. Тут, дзякуючы сяброўцы, пазнаёмілася з Віталісам Сарасекам. «Маёмасць маёй сям'і была знішчана бальшавізмам і войнамі. Яны адчувалі сябе такімі абрабаванымі. Магчыма таму заўсёды я так добра сябе адчувала сярод мастакоў».

У камуністычнай Польшчы Марыя бывала ў культавых месцах Варшавы, кабарэ, студэнцкіх клубах. Трапіла ў кампанію артыстаў. Разлічвала, што ў разбурэнні бар'ераў і прадузятасці ў тадышніх абставінах на чале стаяла асяроддзе мастакоў. Яны, хаця тагачасная ўлада, якая ў кожнай сферы жыцця, нават самай інтымнай, хацела, каб усіх падпарадкаваць чырвонай ідэалогіі, у сваім асяроддзі ўмелі адчуваць сябе свабоднымі. Марыя, калі пазнаёмілася з Віталісам, яшчэ мацней звязалася з асяроддзем варшаўскага авангарду.

Аднак Віталіс і Манька разышліся. Ён жыў уласным, асобным жыццём, больш за ўсё, унутраным, таму, што яго знешняе жыццё ў асноўным абмяжоўвалася да піцця, курэння і сустрэч з варшаўскай багемай, уражанай яго ўсходняй экзатычнасцю. Аднак у канцы Сарасеку надакучыла і тое, не хапала яму творчай прасторы. Марыя заўсёды бачыла ў Віталісе ўражлівага мужчыну. Прадала кватэру ў Варшаве і ўцякла з ім на канец свету — у Саколку. Гэтым рашэннем хацелі выказаць своеасаблівы супраціў да мяшчанскага менталітэту і ладу жыцця.

Марыя сёння не мае ўжо нікога з бліжэйшай сям'і. Яе брат, Міхал Вянцкоўскі, дзеяч «Салідарнасці» памёр у 40-гадовым узросце. Ягонае пахаванне здзейсніў сам блаславёны Юры Папялушка. Да сёння ў хаце Сарасекаў у Саколцы вісіць ягоны здымак — мужчыны з цёмнымі, даўжэйшымі валасамі, які абапіраецца на драўлянае крэсла. «Міхал вельмі ўключыўся ў дзейнасць «Салідарнасці, — падкрэслівае Марыя. — Ён сустракаўся з найбольш актыўнымі арганізатарамі антыкамуністычнай апазіцыі ў ПНР. Паводле Адама Міхніка, Міхал найлепш танцаваў «хору», традыцыйны румынскі танец».

Маці Віталіса памятала міжваенную Саколку. Марыя жыла з ёй амаль 17 гадоў і ніколі не пачула нічога дрэннага наконт яе паходжання. «Цешча была вельмі талерантнай асобай, сама сябравала з сакольскімі жыдоўкамі».

Хатка па вуліцы Мар'янскай не пасуе ўжо да гарадскога краявіду Саколкі. Драўляная, памалявана чырвонай фарбай здаецца быць яшчэ меншай сярод двухпавярховых бетонных блокаў. Усё гэта, чым пагарджала Марыя і што хацела пакінуць у Варшаве, цяпер прыйшло і сюды, у Саколку. Аднак клімат невялікай хаткі, які ствараюць даўнія вясковыя мэбля і прылады, каляровыя макаткі, карціны Віталіса і нязменныя ад 20 гадоў погляды Марыі робяць гэтае месца авангардным на фоне Саколкі.









Партрэт маладой Марыі

## Саколка

Мастацкі партрэт — найбліжэйшага для Сарасека свету — роднага гарадка ўпісваецца ў літаратурны вобраз старой Саколкі, якую апісваў ягоны сябра Раймунд Каліцкі, ураджэнец Саколкі, пісьменнік, перакладчык, рэдактар часопісаў «Чытэльнік» і «Творчасць»: «Miasteczko leży w zachodnich rubieżach Wielkiego Księstwa Litewskiego, dziś należących do Polski. We wsiach rozrzuconych wokół niego, wśród lasów i wzgórz, mówi się po białorusku. Nazywa się ten stary i śpiewny język „prostym", mówi się „po prostu". To ziemie jagiellońskie, po trochu mickiewiczowskie, gdzie krępe konie, ciągnące furmanki, dźwigają nad grzbietem drewnianą, kabłąkowatą dugę. Lasy i wzgórza są tu przepiękne (prawie jak u Nikifora), ale samo miasteczko raczej nijakie. Zawsze wydawało mi się, że wszystkiego w nim za mało: i Wschodu, i Zachodu» (R. Kalicki, *Dziennik nieobyczajny*, Warszawa 2008).

На карцінах Віталіса можна пабачыць Саколку, якой ужо няма. З акна хаты ягоных шматгадовых сяброў, спадарства Андрукевічаў, намаляваў касцёл са званіцай і даўнейшую хату манашак. Гэтую пасля некалькіх дзён абклеілі пластыкавым сайдынгам. На карцінах Сарасека запісаўся вобраз сучаснай яму Саколкі, якую цяжка знайсці ў сённяшняй.

Сарасек маляваў пераважна алейнай тэхнікай, найчасцей зімовай парою, што дазваляла яму схапіць спецыфічнае святло. Ягоныя карціны, якія паўставалі на Сакольшчыне праз апошніх дзесяць гадоў, параўноўваюцца да творчасці Пітэра Брэйгеля Старэйшага, галандскага жывапісца, названага «сялянскім мастаком». Працы Брэйгеля ў значнай ступені звязаныя былі з прадметам сельскага жыцця.

Віталіс Сарасек стараўся затрымаць на карцінах характар памежнага мястэчка, аднак сам стаў у ім зусім забыты. Працы мастака сёння можна паглядзець у хатах некаторых сакальшчан, якія заўважылі і належным чынам ацанілі талент мастака. Дзякуючы продажы карцін, ён сам меў грошы на штодзённае жыццё.

У Віталіса Сарасека былі амбіцыйныя мэты, да якіх імкнуўся і якія, у значнай ступені, здзейсніў. Сарасек ужо памёр. У выпадку некаторых артыстаў гэта абсурдны шанц, каб быць заўважаным.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Бар „Там”

Прыватны бар „Там” знаходзіцца ў вельмі зручным месцы побач аўтавакзала ў Беластоку. Тут якраз спыняюцца зялёныя аўтобусы гарадской камунікацыі. Іх відаць з акон бара.

„Там” адкрыты ад раніцы да вечара. У ім ветлівае абслугоўванне кліентаў. Зладжана працуюць няўтомлівыя маладыя дзяўчаты. Ёсць тут да выбару 10 страў, у тым ліку булён са свойскай птушкі, гамбургеры, бульба фры, кебабы, гот-догі, тартылля і г.зв. запяканкі, а да іх самыя розныя прыправы. За столікам можна выпіць чай, каву молатую і растваральную, а таксама ахаладжальныя напіткі. Прыходзяць сюды перш-наперш маладыя людзі. Іх найбольш ў абедннюю пару. Стравы спажываюць на месцы або бяруць на вынас.

У цёплае надвор'е можна прысесці на прыгожых лавачках ля чатырох круглых столікаў пад парасонамі побач бара. Яны абгароджаныя густоўным плоцікам і густа абсаджаныя вечназялёнымі туямі, каб было прытульна пасядзець у зацішку. Калі холад (на двары зараз студзень), тады ў бары можна пагрэцца і пачакаць „свайго” аўтобуса.

Адсюль рукой падаць да перонаў, з якіх ад'язджаюць аўтобусы транспартных фірм ПКС, „Voyager”, „Podlasie Expres” і „Pogoda”. Хто не паспеў схадзіць у рэстаран у цэнтры горада, той тут яшчэ можа падсілкавацца перад падарожжам.

Гэты невялічкі рэстаранчык у самым зручным месцы. Ён першы ў даўгаватым бараку на прывакзальнай пляцоўцы і ўсім праходзячым міма адразу кідаецца ў вочы і запрашае: я тут „Там”!

## Іх кроў ратуе жыццё

Зараз у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) маем пяць актыўных пачэсных донараў. Рафал Харкевіч з Міхнаўкі і Андрэй Янюк з Плянты аддалі па 12 літраў крыві. Трох донараў Адам Барэчка з Плянты, Ян Каліноўскі з Нараўкі і Данель Мірановіч са Старога Ляўкова аддалі па 6 літраў „дару сэрца”. Іх кроў ратуе жыццё цяжка хворым людзям. Яны заслугоўваюць вялікай пашаны ўсяго грамадства.

Польскі чырвоны крыж (паводле колькасці адданай крыві) прысвойвае ім званне заслужаных пачэсных донараў. Яны атрымліваюць прывілеі, між іншым, у той дзень, калі аддаюць кроў, маюць вольны ад працы дзень, без чаргі купляюць лекі ў аптэцы і не чакаюць у чарзе да лекара, а таксама бясплатна карыстаюцца праездамі аўтобусамі гарадской камунікацыі.

## Усё менш дрэў у горадзе

У Беластоку ўвесь час пашыраюць то адну, то другую вуліцу і пры тым сякуць дрэвы. Зараз мала іх не толькі ў цэнтры горада.

Апошнім часам найбольш дрэў ссеклі на алеі Пілсудскага ды на вуліцах Сянкевіча, Васількоўскай і ген. Андэрса. На іх закопваюць новыя каналізацыйныя трубы ды будуюць новыя маставыя і тратуары.

На вуліцы кардынала Вышынскага, якая выходзіць насупраць аўтавакзала, расло многа арабін. Цяпер шмат іх засохла. На некаторых месцах, дзе яны раслі, пуста або расце толькі трава. Чаму б тут не пасадзіць новыя дрэўцы? Гэта адна з шырэйшых вуліц Беластока. У яе пачатку знаходзіцца Маршалкоўская ўправа.

Служачыя гэтай установы не бачаць ці што? А гараджанам патрэбнае свежае паветра. Тут ездзіць вельмі многа аўтамабіляў. **(яц)**

# XXIX сесія Рады гміны ў Чаромсе





Войт Юры Шыкула віншуе з наступаючым Новым годам

30 снежня 2013 г. у Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася XXIX сесія Рады гміны. Асноўнай тэмай пасяджэння быў бюджэт гміны на 2014 год.

Спачатку былі ўручаны падарункі ганаровым донарам. З такой ініцыятывай да гміннага самаўрада выступіла Павятовае праўленне Польскага чырвонага крыжа ў Гайнаўцы. Звання ганаровага донара ўдастоіліся Моніка Алексяюк, якая здала 5400 мілілітраў крыві, Віктар Іванюк — 12 150 мл., Марцін Кандрацюк — 6300 мл., Лявон Мусюк — 6300 мл., Тамаш Маркевіч — 6300 мл. Падарункі ўстанавіла Рада гміны ў Чаромсе.

Пасля прыняцця бюджэту на 2014 г. і карэктуры бюджэту 2013 г. войт Юры Шыкула падзякаваў радным за падтрымку і заклікаў дэпутатаў да супольнай рэалізацыі вызначаных задач. Паколькі радныя не прад'явілі інтэрпеляцый, прыйшоў час на пытанні і вольныя прапановы. Першай голас узяла солтыс Пагулянкі Аляксандра Храмінская, якая ад імя жыхароў вёскі падзякавала войту і радным за пракладку водаправода. Солтыс вёскі Чаромха Яўгенія Кердалевіч прад'явіла патрэбу рамонту адрэзка вуліцы ў канцы вёскі, які пагражае бяспецы дарожнага руху.

З падзякай выступіў радны і заадно старшыня Раённага аддзялення Польскага саюза пенсіянераў Раман Туркевіч:

— Словы прызнання належацца войту Юрыю Шыкулу і радным за фінансавую падтрымку акцыі забеспячэння пенсіянераў харчовымі прадуктамі. Хочацца пажадаць, каб і ў наступным годзе паміж сеніёрамі і гміннай адміністрацыяй ладзіліся належныя суадносіны. Варта пахадайнічаць, каб солтысы звярнулі ўвагу на прыстарэлых і патрабуючых апекі людзей і заявы перадавалі ў Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі, — завяршыў радны Туркевіч.

З падобнай ініцыятывай выступіла радная са Ставішчаў Валянціна Кердалевіч:

— Нядаўна памёр у нашай вёсцы малады чалавек. Асіраціў трое дзетак і жонку. Добра было б дапамагчы пацярпелай сям'і і ўстанавіць сацыяльную дапамогу...

Солтыс Янцэвічаў Мар'ян Качмажык звярнуў увагу на шкоды, якія наносіць сельскай гаспадарцы лясная звярына. Асабліва бабры і дзікі. Ад іх няма ратунку... Радны Вячаслаў Барташэвіч падзякаваў гміне за падтрымку ягонай ініцыятывы і збудаванне аўтобуснага прыпынку — паветкі з дашкам на вуліцы 1 Мая, а радны Мікалай Самасюк патрабаваў асфальтавання адрэзка вуліцы Дзібуа і Аградовай, побач даўнейшага вагоннага дэпо.

З афіцыйнай падзякай выступіў павятовы камендант паліцыі ў Гайнаўцы падкамісар Дар'юш Кулак. Падзякаваў ён войту і радным за дапамогу ў рамонце мясцовага пастарунка паліцыі. Адначасова заявіў, што ахвотна прыме запрашэнне на сесію Рады гміны, на якой прадставіць стан бяспекі на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны. Апошнімі выступілі жыхар вёскі Вулька-Тэрахоўская Васіль Назарук з дачкой Вольгай са скаргай на рашэнне гміны, якое пазбавіла старэчу магчымасці далучыць ягоную сядзібу да водаправоднай сеткі.

— У 1994 годзе, — канстатаваў дзядуля Назарук, — была падпісана дамова з гмінай на пракладку водаправода да хаты. Паводле дамовы заплаціў я (у трох узносах па 2 500 зл. кожны) за прылучэнне. Пасля некалькіх месяцаў гміна парвала дамову і пасля нейкага часу вярнула грошы без абгрунтаванага паяснення. Адчуваю сябе пакрыўджаным, — заявіў жыхар Вулькі-Тэрахоўскай Васіль Назарук...

У адказ на пытанні войт патлумачыў, што ў вёсцы Чаромсе для рамонту вуліцы неабходная дакументацыя. На даны момант такая задача немагчымая для рэалізацыі, не хапае грошай і таму справа адтэрміноўваецца. Наконт дапамогі пацярпелай сям'і ў Ставішчах сацыяльныя працаўнікі праверацць умовы жыцця, затым гміна прыме адпаведныя рашэнні. На гэтым закончылася дыскусія на XXIX сесіі Рады гміны.

Войт павіншаваў радных, солтысаў і прысутных гасцей з Новым годам. За іх пасрэдніцтвам пажадаў жыхарам гміны моцнага здароўя, поспехаў і задавальнення ў сямейным жыцці, самых добрых і сонечных дзён у 2014 годзе. Удзельнікі пасяджэння абмяняліся віншаваннямі і ўзнялі тост кілішкам шампанскага.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# У Семяноўцы 10 студзеня адкрыўся мадэрнізаваны чыгуначны пераход





http://www.wrotapodlasia.pl

Пераход на польска-беларускай мяжы арыентаваны на грузавы транспарт. З'явіліся тут цалкам новыя памяшканні для памежнікаў ды неабходнае абсталяванне.

— Самае важнае — зараз тут будзе і фітасанітарны кантроль, — кажа войт гміны Нараўка Мікалай Павільч. — Пра фітасанітарны кантроль мы думалі некалькі гадоў. Урэшце гэтыя думкі сталі фактам. Многія прадпрымальнікі і тыя, хто хоча пачаць свой бізнес, хацелі, каб праз Семяноўку можна было перавозіць тавары расліннага паходжання. А з узнікненнем цяпер такой магчымасці ў нас ёсць спадзяванні, што тыя прадпрымальнікі, што ўжо існуюць, будуць далей развівацца, а новыя будуць з'яўляцца.

Гміна Нараўка бясплатна перадала пад пабудову ўчастак зямлі памерам 3,5 га. Мадэрнізацыя склала амаль 17,5 мільёна злотых. Грошы паходзілі са Швейцарска-Польскай праграмы супрацы. Да перабудовы ў суткі адпраўляліся тут чатыры цягнікі, зараз — ад 6 да 8 цягнікоў.

**Радыё РАЦЫЯ**

Новае выданне

# Гаворкай роднаю заліваў тугу

**Дастаю з паліцы кнігу „Беларуская Беласточчына” (Мінск 1973) і на старонцы 49 чытаю: „Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбкі? А ну, мазнем чырвонай. Гу!..”. Гэта пісаў сорак гадоў таму Юрка Геніюш. Слаўны, таленавіты, мужны Юрка Геніюш — адзіны сын у бацькоў. Але ў якіх бацькоў!!! Маці Ларыса Геніюш — найвялікшая паэтка Беларусі, патрыётка, змагарка, вязень сталінскіх ГУЛАГаў. Бацька Янка Геніюш — доктар, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, беларускі патрыёт, бібліяфіл, вязень сталінскіх лагераў.**




Мужнасці ён вучыўся ў мамы і таты, прафесію выбраў бацькаву, а творчы талент пісаць узяў ад маці. Георгій Валкавыцкі ў сваіх „Вірах” (Беласток 1991), прыгадваючы 1973 год, піша: „Пасля Новага года аднавіў я шыльду сваёй рубрыкі (Задрыпанка ў сонечных праменнях) і, запрыкмеціўшы ў Юркі Геніюша шчадрынаўскі дух, угаварыў доктара на арэнду суседняй дзялянкі. Канкурэнт пачаў назіраць „З маёй званіцы” пад фірмай „Ларс”. І тут ажыў праўдзівы Гарадок (Працаваў Юрка ў Гарадку)”.

Ажывалі і сябры, калі з’яўляўся Юрка Геніюш, ажывалі выданні, дзе ён друкаваўся, ажываў і беларускі Беласток. Хаця лёс, сапраўды Юркі Геніюша быў далёка не белым. І маюць рацыю Уладзімір Арлоў (кніга „Імёны свабоды” (Радыё Свабода, 2007, с. 434) і Міра Лукша ў вершы „Юрка Геніюш”, калі прыгадалі яго радкі: „Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — Хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?”. Чорны вецер і вецер халодны часта дзьмулі ў твары Геніюшаў. Але яны выстаялі, не скарыліся, не паддаліся, не здаліся. Хаця ўсё ж скразной лініяй праз усю творчасць Юркі Геніюша праходзіць белы колер. Давайце прачытаем яго творы:

*Зацвіла калінай родная зямля.*
*Белай, белай, белай — сувой палатна...*

(Верш „Зацвіла калінай родная зямля...”)

*Белай плямай вабіць-вабіць*
*Картка на стале.*

(Верш „Да свету”)

*Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі... Белы-белы настане дзень... Ды толькі словам бела-бела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто...*

(Абразок „Чорным па белым”)

І абразок „Запавет” таксама пачынаецца з белага колеру: „І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця...”. Здаецца і тут пра белы колер, але ён вельмі самотны, тужлівы, балючы.

Усе гэтыя разважанні прыйшлі да мяне, калі я чытаў новую кнігу ў чорнай вокладцы „Смыком па сэрцы” Юркі Геніюша. Кніга выйшла з друку, дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням і беларускай Інтэрнэт-Бібліятэкі Kamunikat.org. Творы для зборніка добра падабрала і напісала сціплую прадмову Міра Лукша, а рэдагаваў выданне Віталь Луба.

Здаецца, перапілуў усіх, хто шчыра працаваў над тым, каб літаратурная спадчына Юркі Геніюша з’явілася на свет. А гэта найбольш поўнае выданне яго разнастайных па жанру твораў. Тут і проза, і паэзія, і драматургія, а таксама шмат цікавых і рэдкіх фотаздымкаў.

У першым раздзеле „У Гарадку і наваколлі” кнігі Юркі Геніюша распавядаецца якраз пра тое, аб чым некалі прасіў пісаць Юрку Геніюша Георгій Валкавыцкі — пра культурнае і працоўнае жыццё Гарадка і вёсак вакол яго. Цікава чытаецца тое, аб чым жылі яго. Цікава чытаецца тое, аб чым аўтар паведамляў некалькі дзесяткаў гадоў таму. З кнігі мы даведваемся пра трыкатажны завод (1959-1995), пра гарадоцкі хор, пра фарміроўшчыка Гогаля, млынара Лапіча, пра крамы і шмат пра што іншае. Аўтар апісваў усё даволі цікава, шчыра, нават з нейкім светлым гумарам. Калі б і сёння падобныя нататкі з глыбінкі Беласточчыны хтось дасылаў, то рэдактар „Нівы” Яўген Вапа іх абавязкова друкаваў бы. Яны чытэльныя, лёгкія і невялікіх памераў. А сённяшнія чытачы не вельмі любяць чытаць вялікія тэксты, асабліва, калі яны яшчэ без фотаздымкаў.

Чытаючы кнігу Юркі Геніюша „Смыком па сэрцы”, прыхільнікі яго творчасці пабываюць і даведаюцца, як жылі і чым жылі беластоцкія вёскі 30-70 гадоў таму. Аўтар у свой час пісаў пра дзеда Няўдалага з вёскі Скупавічы, які некалі пырнуў віламі нямецкага жаўнера. З кнігі мы даведаемся і пра тое, што некалі ў вёсцы Случанка вельмі дружна жылі вяскоўцы, а ў Меляшках раней смачны пяклі каравай, а ў Падазераны пачаў курсіраваць аўтобус...

Мне падабаецца, што ў кнігу Юркі Геніюша Міра Лукша ўключыла і пяць ягоных п’ес. Гэта п’есы „Хто — каго?”, „Прыгоды Белага Грыба”, „Зямля”, „Вывараджыла”, „Дзіўны горад”. Некалі пад адной вокладкай выходзілі п’есы Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша. Кніга мела назву „Зборнік сцэнічных твораў” (Беласток 1976). Я пытаўся ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п’ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п’ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася іх некалькі.

Друкавалася п’еса Юркі Геніюша і ў „Зборніку сцэнічных твораў” (Беласток 1969). Гэта была бытавая камедыя „Вывараджыла”, якая тады нават атрымала ўзнагароду ў конкурсе БГКТ.

Што датычыць паэзіі Юркі Геніюша, дык яна своеасаблівая, далёка не падобная на паэзію яго маці Ларысы Геніюш. Але сын вучыўся ў маці, спрабаваў, як казаў Ян Чыквін, удыхнуць дух аптымізму, творчую энергію, прывіць імунітэт непадатлівасці на чужыя вірусы, папярэджваў аб устойлівай палітыцы дэнацыяналізацыі розных „дабрадзеяў” з Усходу і Захаду:

*Пасля ночы будзе-будзе колісь дзень.*
*Мы не можам жыць без свету...*

Юрка Геніюш — быў чалавек кампанейскі, меў шмат сяброў, у яго хапала энергіі і сіл на знаёмствы і сустрэчы, меў добрую памяць, шмат ведаў вершаў, анекдотаў, любіў іх распавядаць. Ён быў казачнік-выдумшчык і літаратар з гумарам. Мне вельмі падабаецца яго аповед „Як чэрці свіней у балота зацягнулі”. Нагадаю чытачам сюжэт. Прасілі дзеці дзядзьку Рыгора расказаць пра гэта. І ён расказаў. Аднойчы пасвіў у пана свіней, але пан мала плаціў, а малады Рыгор некалі задумаў жаніцца з прыгожай дзяўчынай. Тады ён вырашыў прадаць свіней пана гандлярам, але паадрэзваў у свіней хвасты. А потым гэтыя хвасты пазасоўваў у балота. А пану сказаў, што чэрці свіней пазавалакалі ў балота, толькі хвасты відаць. Пабег пан глядзець, схапіў за хвасты і „адарваў” іх. А Рыгора выгнаў з працы. Але за грошы Рыгор хутка жаніўся з прыгожай Алесяй... Цікавейшая рэч. Вельмі добра чытаецца, проста не адарвацца. І такіх твораў у Юркі Геніюша шмат. Па іх можна нават вясёлыя мультфільмы і фільмы здымаць.

А цяпер пра ліст да Віктара Шведа. Я думаю, што вядомы беларускі паэт з Беластока Віктар Швед заўсёды памятаў і памятае тое, што некалі яму пісаў і казаў Юрка Геніюш. А казаў ён вось што: „І памятай, што хай цябе там нават клічуць Шведам — для нас ты быў і будзеш беларус”.

І апошняе з нагоды выхаду кнігі „Смыком па сэрцы”. А ці ведаеце вы, шаноўныя сябры, чым пры жыцці Юрка Геніюш заліваў тугу? А заліваў ён яе — гаворкай роднаю. Дык давайце і мы далучымся да Юркі Геніюша і будзем яшчэ мацней любіць наша беларускае Слова. Памятаеце, ён пісаў: „Бойцеся Слова! Пад ім трапячыце. У ім Ваша смерць, нягоднікі ды зльдні...”. Няхай ворагі баяцца нашага Слова, а мы будзем жыць доўга: „Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбкі? А ну, мазнем чырвонай...”.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

---

*Як калісь лячылі*

## Зубы

Сонейка знізілася, неўзабаве вечар. Асенні дзянёк жа кароткі. Куры ўжо паселі на седала. Толькі Бобік, сабачка, сёлетні знайда дачкі Нацькі, віўся пад нагамі гаспадыні, то лашчыўся, то спакойна ўглядаўся сваімі вялікімі, мудрымі вачыма, прасіў вячэры — даволі набегаўся ўдзень за курамі.

Манька вынесла пад хлеўчык міску з ежай Бобіку і хутка пакрочыла дахаты. Прысела на табурэтку, уздыхнула: „Ой, як добра, што мая адзіная красуля запусцілася, даіць не трэба, хаця свежае малачко прыдалося б, а так на вячэру картоплі з халадніцай трэба есці. Нацька зноў будзе крывіцца, а яна не наймалодшая ў нас...”.

Роздумы Манькі перарваў стогн на печы.

— Мамо, мне зуб баліт, зуб баліт... Ой, ой!

— Не плач, даражэнькая, заўтра бацька завядзе цябе да дзядзькі Пракопа, ён што-небудзь параіць, — старалася суцешыць дачушку Манька.

Нацька енчыла доўга вечарам, пакуль заснула, прыклаўшы да зуба льняную шматачку намочаную ў гарэлцы.

— Ну, памагло, — глянуўшы на спакойна ўжо спячую дачку, падумала маці. І раптам прыпомнілася ёй, як маленькай старэйшай дачцэ Веры цешча давала ў шматачку ўвязаны пажаваны ёю хлеб з кропелькамі гарэлкі або цукрам, і як тады хутка дачушка пераставала крычаць і засынала.

Назаўтра пасля снедання бацька Іван узяў за руку Нацьку і павёў да Пракопа. Дзядзька паглядзеў дзяўчынцы ў рот, узяў абцугі і, схапіўшы за хворы зуб, узяўся яго выцягаць. Ды зуб вырваць не ўдалося, толькі крык перапалоханай Нацькі чутны быў аж на вуліцы.

Назаўтра было свята Кузьмы-Дзям’яна. У суседняй вёсцы гасцююць. Бацькі Нацькі, едучы ў госці да сваякоў, забралі дзяўчынку з сабою і там завялі да „зубнога спецыяліста”. Ён, спрытна ўзяўшы абцугі, выцягнуў зубок, а Нацька нат крыкнуць не паспела.

Прайшла восень, зіма, настала лета. Людзі памалу забывалі пра вайну, пачулі свабоду, штоцачвер ехалі ў недалёкі горад Бельск за патрэбамі.

Надыходзіла вялікае свята Спаса. Наз’язджаецца ў царкву, як калісь, многа людзей з ваколіцы. Тыдзень перад святам забалеў, як на грэх, зуб старэйшай дачцэ, Веры.

— Маманька, зуб баліць, не паганю сёння пасвіць кароўку, хай бабуля мяне заступяць, — жаласлівым голасам папрасілася ў маці.

— Добра, дочанька, заўтра зарубаю курыцу, возьмеш у сумачку і пойдзеш пехатою ў Бельск, да зубнога дохтара. Там людзі пакажуць табе дарогу да дохтара; кажуць, вельмі добрая дохтарша, старэйшая, лячыла яшчэ да вайны.

Раніцай Вера ўзяла сумачку з курыцай і пешшу пайшла за 13 кіламетраў у Бельск. Дарогу скараціла сабе наўпрасткі, праз Кнаразы. У горадзе паказалі ёй стары домік, дзе жыла і лячыла дохтарша.

— Ну, дзяўчына, я яго табе так палячу, што калі будзеш у маім узросце, усё ж твой зуб здаровым будзе трымацца.

І так яно і было. Вера ўжо немаладая, а той зуб у яе трымаецца. І Вера дасюль успамінае тыя часы.

**Ніна БРУЧКО**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

## Вершы Віктара Шведа

### Агратурызм

Уласнік кватэры
Агратурыстычнай
З вялікім даверам
Да свайго турыста:

— Шаноўнага пана
Абудзіць певень рана.
— Наставіць трэба будзе,
Хай а дзесятай будзіць.

### Удача

Двух хлопцаў ахвота
За цягніком гоніць.
Удалося ім ускочыць
Да апошняга вагона.

— Калі б цягнік не меў
Апошняга вагона
З табою я б сядзеў
Дагэтуль на пероне.

*Юліта ГРЫКА*
*Міхалова*

### Зіма

**Ідзе зіма, ідзе мароз,**
**Вязе снегу цэлы воз.**
**Рассыпае снег іскрынкамі.**
**Будзе гульня з санкамі.**
**Будзе міла і вясёла,**
**Бо на падворку снегу многа!**
**Нават Мароз суровы ходзіць,**
**На вокнах прыгожыя**
**карціны выводзіць.**



*Калянднікі з прадшколля н-р 14 з Беластока*

## Каляды, каляды...



*Куцця ў Арэшкаве*

На трэці дзень Каляд у нашу рэдакцыю нечакана з'явіліся каляднікі з Мінска. Іх калядка доўжылася нейкія дзесяць хвілін. Яна расслаўляла гаспадароў і мела пажадальны характар. Да таго ж аказалася крыху знаёмай. Госці з Мінска спявалі на такой мове, як гавораць у нас пад Орляй, з цвёрдым палескім вымаўленнем.

— Адкуль жа вашая песенька? — пацікавіліся мы.

Адказ захапіў усіх. Вось мінчукі прыехалі з калядкай, запісанай у людзей на беларускім баку Белавежскай пушчы.

У калядны час уся Беласточчына выйшла праслаўляць нараджэнне Божага Дзіцяткі. Нашыя каляднікі спяваюць пераважна сучасныя кароценькія калядкі. Многія забываюць пра гвязду, сімвал свята. Варта ўжо падумаць пра наступны год і больш прывязацца да сваіх, мясцовых традыцый.

**ЗОРКА**

**Вікторыя КАРДЗЮКЕВІЧ**, *ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## Непаслухмяная Алеся і яе прыгода

Даўным-даўно жыла на свеце дзяўчынка Алеся. Яна была вельмі непаслухмяная і крывадушная. Аднойчы на ўроку яна сядзела каля Яся, які ўвесь час перашкаджаў ёй слухаць урокі. Дзяўчынка канчаткова не вытрымала і крыкнула:

— Ясь, ты тумане! Перастань! Чуеш?

Усе вочы ў адзін момант глянулі на Алесю. Яна зрабілася чырвоная як бурак і хацела схавацца або ўцячы. Настаўніца суровым позіркам паглядзела на яе і спакойным голасам сказала:

— Алеся, хадзі сюды! Да канца ўрока будзеш стаяць у куце.

Алеся яшчэ больш пачырванела і ведала, што выглядае як пяць буракоў. Яна падышла да дошкі і стаючы спаглядала на Яся. Ясь хітра смяяўся і размаўляў з сябрамі, не лепшымі за яго. Пасля ўрока Алеся выйшла са школы хуткім крокам. Яна не пачакала нават сваёй сяброўкі Ані. Аня пачала крычаць:

— Алеся! Пачакай мяне! Я цябе прашу!

Алеся адвярнулася і стала хутка бегчы. Аня пабегла таксама, але праз хвіліну вярнулася. Алеся ведала, што сяброўка яе ўжо не гоніць і пачала ісці спакойным крокам. Калі дайшла да хаты, убачыла яе маці. Мама ўжо ўсё ведала, бо настаўніца паслала ёй патэлефанаваць, і не была задаволеная. Алеся застукала ў дзверы і яны раптам адчыніліся. Маці загадала:

— Хадзі сюды і сядай за стол!

— Добра, добра! — крыкнула са злосцю дзяўчынка.

Алеся пачала есці суп і пачула крокі бацькі. Мама ўжо сядзела.

— Нам трэба з табою паразмаўляць, — спакойным голасам сказаў бацька.

— Ты ведаеш, што ты зрабіла не так? Праўда? — ужо спакайней гаварыла маці.



Калядуюць „Баламуткі” з Беластока



Наталля МАРЧУК, *Нараўка*

# Мова

Мова — што гэта?
Гэта роднае слова,

Якога ніколі не забудзем.
Якое памятаем да канца жыцця

І знаем як ім карыстацца
Ад нараджэння па смерць.

## Увага, конкурс!!! (№ 3-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 2 лютага 2014 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Ён без фарбаў,
без алоўка.
На акне малюе лоўка
лапкі елак,
пальмаў вецце...
Як жа той мастак завецца?

**2.**

Як жыве
– заўжды маўчыць,
нерухома ён ляжыць.
А вясной,
калі пампэ,
мчыцца з гор,
шуміць раве.

**Адказ на загадку № 51-13: Арабінка, снег. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Маргарыта Галёнка з Арэшкава, Магдалена Стоцкая і Паўліна Лаўнічук з Нараўкі. Віншуем!**

— Так, я ведаю — гэта праўда, — буркнула дзяўчынка.

— Чаму ты так зрабіла? — спытаўся бацька.

— Таму што Ясь мне перашкаджаў, таму.

— Чаму ты яго так назвала? Трэба было проста сказаць настаўніцы! — параіла мама.

— Ну, што ж, ён заслужыў! — крыкнула Алеся і ўцякла на вуліцу.

Бацькі закрычалі:

— Алеся! Алеся, вяртайся!

— Вяртайся! На вуліцы мароз! Алеся!

Дзяўчынка бегла як умела найхутчэй. За ёй пабег тата, але яна згубілася. Бегла, бегла, і ўпала ў ваду. Дзяўчынка не ўмела плаваць і пачала тапіцца. Раптам нейкая рука пацягнула яе ў глыбіню вады. Алеся заснула і не ведала, што з ёю робіцца. Праз нейкі час яна прачнулася і ўбачыла перад сабой анёла. Спыталася ў яго:

— Дзе я ёсць? Што са мной? Дзе мае бацькі? Чаму я тут?

— Спакойна, спакойна. Ты ў падводным горадзе. Твае бацькі далёка, далёка, — спакойна гаварыў анёл. — Цяпер хадзі са мной.

— Добра, — са страхам сказала Алеся.

Дзяўчынка ішла спакойна за анёлам. Раптам яна ўбачыла сваю сумную сяброўку Аню. Малая дзяўчынка плакала. Яе маці была на працы, а бацька ў полі.

— Чаму яна плача? — спыталася ў анёла Алеся.

— Таму што ты яе пакінула і яе не пачакала.

Яны яшчэ некалькі хвілін глядзелі на Аню. Паляцелі да таго месца, дзе быў малы хлопчык. У яго быў дзень нараджэння і ён вельмі хацеў запрасіць Алесю на вечар да сябе. Хлопчык быў сумным.

— Чаму Ясь сумны? — спыталася ў анёла Алеся.

— Ён хацеў цябе запрасіць да сябе на свой дзень нараджэння, але вы пасправаліся.

— Ён мне перашкаджаў і з мяне смяяўся! Чаму? — здзівілася Алеся.

— Ён зразумеў сваю віну і хацеў папрасіць у цябе прабачэння, — адказаў анёл.

Пайшлі далей. Дзяўчынка ўбачыла бацькоў, сясцёр і братоў, якія шукалі яе з паходнямі.

— Гэта мая сям'я! — крыкнула ўцешаная Алеся.

— Так, гэта твая сям'я, — адказаў анёл.

Пасля такога падарожжа яны заляцелі ў пакой, дзе быў кабінет анёла.

— Сядай, калі ласка, — сказаў анёл.

— Дзякуй! — буркнула Алеся.

— Алеся! — папракнуў яе анёл.

— Добра, добра, дзякую, — адказала дзяўчынка.

— Цяпер будзеш памагаць хворым і бедным людзям.

— Але...

— Ніякага „але”, маеш гэта зрабіць, бо ніколі не вернешся дахаты!

— Добра, добра, — адказала перапалоханая дзяўчынка.

Алеся пайшла за анёлам і перайшла праз вялікія драўляныя дзверы. Яна была змучаная, але ведала, што мусіць выканаць загад анёла, бо ніколі не вернецца ў свой свет. На пачатак дзяўчынка пайшла ў хату, дзе жылі бабуля з дзядулем, якія даўно не бачылі хлеба. Пасля анёл завёў яе ў наступную хату. Алеся памагала бедным і хворым людзям. Калі Алесі застаўся ўжо толькі адзін дом, анёл сказаў, што гэта будзе найбольш цяжкае заданне. Дзяўчынка ішла і спявала малітву, якую навучыла яе маці. Калі ўбачыла маму, а мама сваю Алесю, дзяўчынка заўважыла, што яна мокрая і што няма ўжо анёла. Гэтая апошняя хата гэта быў яе дом. Алеся пачала прасіць прабачэння ў сваіх родных. Яна апранула найлепшую сукню, узяла торбу, якая падыходзіла да сукні. На пачатак пайшла да Яся, папрасіць у яго прабачэння. Ясь вельмі ўцешыўся і сказаў, што ў яго праз тры гадзіны імпрэза з нагоды дня нараджэння. Пасля дзяўчынка пабегла да Ані. Сяброўкі пачалі абдымацца і высветлілі ўсе непаразуменні. Дзяўчынкі пабеглі павіншаваць Яся.

І гэтак кончылася прыгода непаслухмянай Алесі. Цяпер яна мілая для ўсіх, спявае малітвы, памагае бедным і слухаецца бацькоў, з усімі сябруе. Яна зразумела, што трэба быць уважлівым і добразычлівым для ўсіх людзей.

## Польска-беларуская крыжаванка № 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51:**

Пуп, час, рада, Агата, шык, глог, узнагарода, ода, арол, Яша, успаміны, два. Шум, прыз, акно, Адам, чарга, Ян, грошы, ало, згода, агарод, касілка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Катажына Лаўрэшук, Магда Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага, **Рафал Вакулюк** з Гайнаўкі, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Наталля Марчук, Рафал Новік, Альжбета Харкевіч, Кацярына Мучко, Алек Чарняўскі, Паўліна Лаўнічук, Куба Анішчук** з Нараўкі. Віншуем!




№ 03 [19-01-2014]



*Ніна БРУЧКО-АНДЖЭЮК*

**Дарога жыцця**

*I*

## *Маладосць*

*На высокіх абцасах,*
*голасна стукае*
*па вясковым бруку,*
*гібкая, як бяроза,*
*прыгожая,*
*як у агародчыку*
*развітая*
*чырвоная ружа.*
*З высока паднятай галавою,*
*яшчэ пад руку з табою,*
*ідзе маладосць твая.*
*Не вер у яе словы,*
*што будзе заўсёды з табою,*
*гуляй, цешся,*
*кожны дзень сцеражы,*
*яна з табою*
*не на ўсе гады,*
*толькі коратка,*
*толькі сёння,*
*бо заўтра —*
*пасохне чырвоная ружа,*
*пахіліцца нізенька*
*гібкая бяроза,*
*аглянешся назад —*
*— а ты ўжо стары!*

*II*

## *Старасць*

*Старасць —*
*як восень дажджлівая,*
*слязьмі пакрывае жыццё,*
*ідзе за табою,*
*хутка, хуценька,*
*то зноў бяжыць,*
*маўкліва кранае тваё цела,*
*ды не крычыць.*
*Уцякаць? Куды?*
*Немагчыма,*
*яна ўвесь час за табою,*
*за спіною*
*стаіць.*
*Песціць твой твар маршчынамі,*
*ломіць косці,*
*заглядвае ў твае змучаныя вочы,*
*залётна моргае,*
*з усмешкай,*
*як хлапец маладой нявесце.*
*Падае ў руку кіёк,*
*падперціся мо трэба*
*калі ўбачыш камень здалёк.*
*Уцякаць? Куды?*
*Не зможаш.*
*Яна назойліва табе шэпча:*
*ты ўжо не малады,*
*і не пушчу цябе я нікуды!*
*Дарога ўжо кароткай стала,*
*не ўпірайся,*
*пойдзем далей разам,*
*бо я таксама ўжо стамілася*
*гонячы цябе шмат гадоў.*
*Нарэшце ўжо схапіла*
*і не пушчу,*
*і астануся*
*да канца з табой.*

## *Куды адышла?*

*Асеннія воблакі*
*плывуць*
*над маёй вёскай,*
*як даўней,*
*з вышыні сумна глядзяць*
*на незнаёмыя хаты*
*незнаёмых людзей.*
*Шукаюць мінулага,*
*як стары чалавек маладосці,*
*якой не вярнуць,*
*а забыць немагчыма.*
*Надарэмна шукаюць*
*малых шыбак у вокнах,*
*сёння плачучых*
*па ўчарашнім,*
*як малое дзіцё*
*па згубленай маці.*
*Заўтра пойдуць на сметнік,*
*нікому непатрэбны,*
*белым пластыкам заменены.*
*І дубы, і вязы,*
*што ля хатаў,*
*пакінуты і забыты,*
*адолены красой*
*высокіх стройных туяў,*
*аплятаючых як вэлюм маладуху*
*жалезныя брамы і клуні*
*новых, маладых гаспадароў.*
*Куды адышла*
*мая вёсачка родная*
*і сасновая хатка*
*з разьблёным ганкам,*
*малымі вокнамі,*
*вясковым цесляром*
*зроблена?*
*У забыццё?*
*Без права на вяртанне?*

*** * ***

*Іду вуліцай,*
*у час дзяцінства брукаванай,*
*цяпер асфальтавай,*
*вакол дамы-палацы*
*стаяць стройна,*
*як паны.*
*Гамоняць гучна*
*між сабою,*
*пазіраюць сусед на суседа*
*з вышыні,*
*з узнятымі чарапічнымі дахамі.*
*Як у мінулым*
*пры калодзежах журавы.*
*Спрачаюцца:*
*— Хто з нас страйнейшы?*
*— Я!*
*— Мае вокны прыгажэйшыя!*
*— Не, мае!*
*— Мой колер сценаў...*
*— І ганак...*
*а мо падворак*
*цудаўнейшы!*
*Чую шэпты,*
*то зноў сваркі,*
*як даўней суседзі за мяжу,*
*амаль бяруцца за баркі,*
*кожны сваёй рацыі бароніць,*
*адзін другому праўды даводзіць.*
*І справа,*
*і злева,*
*усюды таксама*
*мая вёска?*
*Не, ужо іншая, чужая!*
*Іду вуліцай*
*далей...*
*Тут хатка драўляная, маленькая,*
*асталася,*
*сумная,*
*з сорамам глядзіць на мяне,*
*не першай ужо маладосці,*
*забытая*
*дзядамі, бацькамі, унукамі...*
*Чакае чужых,*
*мо мяне?*
*Іду —*
*да яе ў госці*
*і не пайду далей,*
*тут астануся,*
*памалюю,*
*вярну ёй маладосць*
*і будзе жыць далей,*
*і ўсміхацца,*
*малымі вокнамі*
*на вуліцу ўзірацца*
*і як суседзі*
*дамы-палацы*
*ганарыцца.*







*Ала ЯСВІЛОВІЧ*

## *Песня маме*

*Песню маме я сёння заспяваю,*
*Заспяваю пра тое, што яе кахаю.*
*Кахаю яе за ўсё што былое,*
*Яно для мяне дарагое такое.*
*Кахаю я маму за тыя аладкі,*
*Што мне давала замiж шакаладкі,*
*За бульбачку з печы,*
*За ўсе сустрэчы.*
*Кахаю за ўсё, што мне гаварыла*
*Як гаварыла з ёю — было вельмі міла.*
*Пратаптанай сцежкай магла я пабегчы,*
*У роднай хаце хвіліну прылегчы.*
*Усё вельмі добрае я ўспамінаю,*
*Дзякуючы за былое, я маму кахаю.*
*Усё гэта хацела б маме сказаць,*
*У дзень нараджэння яе павіншаваць.*

## *Родная мова*

***Р**однае мовы я не забуду*
*І назаўжды і ўсюды.*
*Родная мова мне дарагая,*
*То мая „мама" другая.*
***В**образ маёй хаты ў вачах стаіць,*
*Калі родная мова гучыць,*
*А кожнае слова, мне так здаецца,*
*Як мёд на сэрца мне ліецца.*
***Д**зе не паеду, куды ні пайду,*
*Лепшае мовы я не знайду.*
*Ужо ад калыскі першы навукі,*
*Ужо вывучала я першы гукі.*
***Н**іхто не павінен мовы губляць!*
*У жыццёвы сшытак яе запісаць.*
*З роднаю мовай як нарадзіўся,*
*Так і да смерці яе не забыўся.*
***А**б мове пісалі ўжо паэты*
*І прадстаўлялі яе добры прыкметы.*
*Бо проста і салодка нам усім яна —*
*Родная мова мая.*
***Я**к не любіць гэтых слоў,*
*Калі мы сядаем разам за стол,*
*Дружна і радасна мы гаворым,*
*Пра родную мову не спорым.*
*Але не ўсюды нас панімаюць,*
*Таксама не ўсюды мову кахаюць.*
*Часта бываюць людзі ганімы,*
*Што размаўляюць словам радзімым.*
***М**нога на свеце розных моў,*
*Чуецца ў свеце шмат розных слоў.*
*Ну, што сур'ёзна трэба сказаць:*
*Роднае мовы нельга забываць.*
***О**х, яна гожа як кветак букет,*
*Найпрыгажэйшы на цэлы свет.*
*І як тая кветка пахне яна,*
*Родная мова мая.*
***В**ек ёй, здаецца, можна аддаць,*
*Каб на той роднай мове пісаць.*
*Родная мова ў вуха ўлятае,*
*Быццам жаўрук над полем спявае.*
***А** на канец я вам скажу,*
*Што й песню родную я люблю.*
*Таму што ў песнях харошы ёсць словы,*
*Усе яны ўзяты з роднае мовы.*

*** * ***

*Па-беларуску цяжка пісаць,*
*Бо трэба мову панімаць.*
*Я так пішу як умею*
*І аб тым, што разумею.*
*Пішу як мы гаварылі ў хаце,*
*Як мяне навучылі бацька і маці.*

*** * ***

*Пра што пісаць можна —*
*І пра любоў, і пра радню.*
*Можа, яшчэ не позна*
*Выказаць думку сваю.*

*** * ***

*Мы шчэ не старыя,*
*Мы ўжо не маладыя.*
*Бо ўсё ўжо за намі,*
*І ўсё шчэ перад намі.*

*За намі маладосць і ўцеха,*
*За намі бацькава стрэха.*
*Перад намі говар унукаў*
*І многа розных разлукаў.*

# ПЫТАННЕ ПРА ПАЭЗІЮ СЁННЯ

Шосты раз праводзіўся Фестываль славянскай паэзіі, на які арганізатары запрашаюць лірыкаў з усяго свету, пішучых на славянскіх мовах. Адбыўся ён перш за ўсё ў Варшаве ў лістападзе 2013 года, хаця аўтары пасля наведалі чытачоў ва ўсёй Польшчы — у Жырардаве, Паланьцы, Кельцах, Кракаве, Чахавіцах-Дзедзіцах, а таксама ў Лондане. Пачаўся ён музычна-паэтычным канцэртам у Клубе кнігара на Старым Месце і праводзіўся ў Музеі літаратуры імя Адама Міцкевіча. Сураганізатарам фестывалю быў Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве: у гэты раз першынство мела ў ім беларуская паэзія, а на сценах музея літаратуры апынулася багатая выстаўка, прысвечаная «Дзядам» Адама Міцкевіча, падрыхтаваная Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры (прадстаўленая Лідзіяй Макарэвіч — дырэкатаркай музея і Вольгай Гулевай, кіраўніком навукова-выставачнага аддзела). Выйшлі з нагоды фестывалю дзве кнігі — анталогія беларускай паэзіі «Wiatr od Niemna» з перакладамі вершаў ад Францішка Багушэвіча да Віктара Жыбуля ў трансляцыі Альжбеты Фэліксяк, Яна Гушчы, Францішка Кабрынчука, Ежы Літвінюка, Яна Максімюка, Адама Паморскага, Чэслава Сэнюха, Віктара Варашыльскага, Віктара Шведа і Міры Лукшы пад рэдакцыяй Міры Лукшы і Аляксандра Наўроцкага (выданне пры супрацоўніцтве Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку) ды «Размовы з паэзіяй» — пераклады твораў трынаццаці польскіх сучасных паэтаў на беларускую мову (у тым ліку Міры Лукшы і Яна Леанчука). Галоўным арганізатарам з'яўляецца Аляксандр Наўроцкі, рэдактар перыядычнага выдання «Poezja dzisiaj». Спецыяльным госцем быў сербска-амерыканскі пісьменнік Аляксандр Пэтраў. У фестывалі прынялі ўдзел, беларускія, рускія, украінскія, балгарскі і польскія паэты. На фестываль славянскай паэзіі былі запрошаны таксама паэты з Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» — Ян Чыквін, Міра Лукша, Віктар Стахвюк, Міхась Андрасюк і Аляксандр Баршчэўскі.

Ад шасці гадоў фестываль арганізуе Аляксандр Наўроцкі — паэт, эсэіст, перакладчык, галоўны рэдактар часопіса «Poezja dzisiaj». Аляксандр Наўроцкі (1940 года нар.) — выпускнік аддзялення польскай і венгерскай філалогіі і этнаграфіі Варшаўскага ўніверсітэта. Удасканальваў веды за мяжой: у Венгрыі і Румыніі. Наведваў лекцыі па філасофіі Лешка Калакоўскага. Першым у свеце абараніў магістарскую працу аб паэзіі Чэслава Мілаша (1966). Уласны яго паэтычны дэбют адбыўся ў 1965 годзе ў тыднёвіку «Kultura» ў Станіслава Грахоўяка, якога называлі князем паэтаў. З 1992 года з'яўляецца выдаўцом (уласнае кніжнае выдавецтва IBiS), а з 1998 г. — галоўным рэдактарам часопіса «Poezja dzisiaj» («Паэзія сёння»). Выдае, галоўным чынам, сучасную літаратуру, польскую і замежную; у тым ліку былі выдадзены анталогіі грэцкай, іспанскай, венгерскай, фінскай, рускай, украінскай паэзіі. Ён таксама рэдактар-укладальнік і выдавец трохтомнага зводу паэзіі «Польская паэзія — анталогія тысячагоддзя» (275 паэтаў: ад «Багародзіцы» да нашых дзён, 1800 стар.), сурэдактар двухмоўнай анталогіі польскай паэзіі, выдадзенай у Расіі ў серыі «Из века в век», якая ўключае паэтычныя анталогіі 14 славянскіх краін. З 2001 года А. Наўроцкі з'яўляецца арганізатарам Міжнародных дзён паэзіі пад патранатам ЮНЕСКА, на якіх выдатным польскім паэтам уручаецца ўзнагарода «Лаўры ЮНЕСКА», а замежным — прэмія «Паэзіі сёння» за пераклады польскай паэзіі на іншыя мовы. Гэты паэтычны марафон доўжыцца 100 дзён — пачынаецца ў Варшаве, затым праходзіць па ўсёй краіне, канчаючыся ў Вільні. З 2008 года арганізуе фестывалі славянскай паэзіі.

Апрача прэзентацыі беларускіх кніг на фэсце прадстаўлена была таксама «EntZEITlicht» — анталогія еўрапейскай паэзіі ў выбары і распрацоўцы Стэфана Заёнца (Нямеччына) і «Niosący słowa» — анталогія сучаснай паэзіі ў выбары і распрацоўцы Фрэдэрыка Рассакоўскага-Лойда (Англія). Традыцыйна праводзіліся сустрэчы з рэдактарамі і выдаўцамі. Былі прадстаўлены часопісы: «Паэзія сёння» (101 нумар, у якім больш за палову твораў — беларускіх аўтараў, перш за ўсё «белавежцаў»), беларускі грамадска-культурны часопіс «Czasopis» (Беласток), новы літаратурга-мастацкі часопіс «LiryDram» рэдагаваны Марленай Зынгер і выдавецтва SIGNO (Кракаў), тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніва» і літаратурна-крытычны гадавік «Тэрмапілы» (Беласток). У канцэртах, спадарожнічаючых фестывалю, выступілі маладая Юлія Габрыеля Налівайка з Гарадка і харызматычны вакаліст і мультыінструменталіст Міхась Гайдучэня з Торуні (родам з Цісоўкі на Міхалоўшчыне) з Магдалінай Цысэўскай.

Адам Сяменчык з Гарадка, сузаранізатар фестывалю, якога польска-англійская кніга «Zakrzyki» стала лаўрэаткай апошняга Сусветнага дня Паэзіі UNESCO, выдаў новую кнігу эсэ-анталогію «Piękni ludzie». Сярод польскіх паэтаў-эмігрантаў апынуліся няпольскія аўтары якія пішуць таксама на сваіх мовах, між іншым Міра Лукша. Ідэя напісання кнігі нарадзілася ў аўтара ад моманту публікацыі яго ў лонданскім «Polish Observer». Адам ужо тады пісаў артыкулы з думкай аб анталогіі. Разам са сваёй сястрой Мартай Брасарт стварыў у Лондане групу «PoEzja Londyn», якая з'яднала аўтараў, перш за ўсё паэтаў, пражываючых на чужыне. Спісак магчымых аўтараў перасягаў за 200 чалавек. Адам Сяменчык выбраў аўтараў, якія паводле яго маюць значэнне для эміграцыйнай паэзіі і яго самога. Анталогія перакладваецца на іншыя мовы, між іншым на англійскую, літоўскую, балгарскую і беларускую, адбываюцца прамоцыі ў розных еўрапейскіх краінах на адмысловых сустрэчах, фестывалях славянскай паэзіі. Разважае: «Паэзія ў выгнанні. Што гэта такое? Геаграфічнае становішча жыхарства творцы? Пачуццё адчужэння ў адносінах да радзімы? Дысідэнцтва? Паведамленне з іншага свету, дзе таксама гаворыцца па-польску? Выказванне голасу невымоўнага ў Польшчы? Адкрыццё адзін на аднаго без цэнзуры? Сэльф-творчасць? Творчасць? Размова? Ненаўмыснае адкрыццё межаў? Можна множыць гэтыя пытанні. Я прапаную засяродзіцца на некалькіх асобных пытаннях, якія адрозніваюць нашу і краёвую паэзію. Другі суразмоўца. Пры стварэнні першы атрымальнік, як правіла, нязменны. Інтым стварэння непарушаны. Гаворка ідзе пра праблікі свядомасці ледзь прыкметныя, ды існуючыя, калі мы атрымліваем веды, што будзе нас чытаць хтосьці — невядомы раней. Перапалох ад прыёму. Ствараючы на чужыне, няма фільтра прыёму яе вядомымі сацыяльнымі пластамі. Гэта момант волі. Невядомы раней. І што цікава — НЕЎСПРЫМАЛЬНЫ. Творца прадчувае яго. Страх ад атрымальніка перастае быць вострым. З'яўляецца свядомасць праніканне ў іншым месцы. Невядома, як гэтыя словы прачытаюцца. Няма ўпэўненасці, што калі хто-небудзь па гэта працягне руку. Застаецца ўсё ж свядомасць, што ёсць хтосьці яшчэ. Разбіццё асабістага табу. Гэта цяжкае пытанне, калі жывеш у закрытай супольнасці. Эміграцыя асвабоджвае. З-за факту аддаленасці, а таксама недастатковасці ці змены атрымальніка. Вырашыўшы жыць у выгнанні дзесьці ў глыбіні ёсць таксама рашэнне, каб быць таксама здзейсненым. Адкрыццё табу такім чынам з'яўляецца часткай гэтага працэсу. Сферы, якія праяўляюць сябе, неабавязкова паказваюць сямейны або сацыяльны кантэксты. Гэта таксама не эксгібіцыянізм. Хутчэй гэта даследаванне і спазнаванне сябе самога. Усведамленне самага пачатку. Гэтае пытанне было кранутае. Падкрэсліваю тут неабходнасць перайменавання свету. І справа тут не ў пераазначэнні, бунце, атацы або змяненні. Гэта момант, калі праз неабходнасць наладжання кантакту вучымся гаварыць пра наш свет. Гэта ўяўляе сабой двайное патрабаванне. Спачаткуназванне, пасля паэтычная перапрацоўка. Часам, аднак, дазваляе гэта фільтраваць значэнне слоў, якія з'яўляюцца важнымі, на ачыстку мовы. Усведамленне сваіх уласных, аўтэнтычных канструкцый часам падымае настрой. Адзіны рэальны свет. У выгнанні, бывае, што адзіным сапраўдным момантам з'яўляецца працэс тварэння. Верш. Моманты, калі жывеш у слове. І гэта не эскапізм, уцёкі ад праблем. Гэтыя моманты існавання сярод няўлоўнага становяцца нематэрыяльным, але адзіным прыстанішчам. Што ж такое — паэзія ў выгнанні? Яна існуе не зачыненая адзіным вызначэннем. Гэта верш (часам некалькі фраз). Ён перадае стваральніка ў новыя рэгіёны. Часам змяняе незваротна. Часам становіцца ўспамінам аб падарожжы. Тым не менш, ён існуе» (Адам Сяменчык, *Прыгожыя людзі, Мая эміграцыйная паэзія*).

Паэзія жыве, у сучасным, непаэтычным свеце, увесь час у нейкім выгнанні. Але ёсць яе аматары і творцы, што ствараюць на «найбольш паэтычных мовах» свету.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

Фота Барбары Юркоўскай



Ян Чыквін, Віктар Стахвюк і Міра Лукша — сярод ганаровых гасцей



Барбара Юркоўская, Аляксандр Наўроцкі, Магдаліна Цысэўская і Міхал Гайдучэня



Марлена Зынгер і Адам Сяменчык

# Раджджаство Жэні Федзюковай

Ужо трынаццаты год Жэня сустракае Божае Нараджэнне без любімага мужа Вані. Добры чалавек быў, шанаваў, кахаў, а і ў гаршчок заўсёды было ім што ўкінуць. Невыпадкова ў беднай Слоі сужэнства клікалі „Гарнушке". Хата ў іх вялікая, сені прасторныя, пабеленыя. Хапала месца, каб прымаць тут вясковае малако, а калісь многа кароў трымалі, не тое што цяпер. На покуці ў кухні і пакоях развешаны прыгожыя, каляровыя вышыванкі, якія выйшлі з-пад іглы кемлівай гаспадыні. Са сцен спаглядаюць найважнейшыя сямейнікі. Хаця часта былі яны разлучаны лёсам, на спецыяльна зробленых партрэтах назаўсёды засталіся разам. З аднаго з іх усміхаюцца прыгожая, маладая Жэня і яе любімы Ваня. Абраз колішні, але каляровы, падмаляваны расійскімі спецамі па прыгожых здымках. Дадаткова ён аздоблены пазатыканымі ў рамкі штучнымі кветкамі.



Аўдавелай жанчыне ўдалося дачакаць восемдзесят трэцяй зімы. Менавіта ў студзені прыйшла яна на свет. Мабыць, таму не страшная ёй ні зіма жыцця, ні зіма за акном. Праўда, адзін вялікі пакой з ложкамі, наўючанымі вышыванымі падухамі, застаецца зачыненым, бо ж хто гэта ўсё апаліць, гэта ж столькі дроў трэба. Найчасцей Жэня зносіць дахаты ўласнаручна нарубаны хворост. Але, вядома, ім хата засмечваецца, таму на свята печкі апальваюцца чысценькім дрэвам.

— Усё ў жыцці мяняецца, нават Божае Нараджэнне, — робіць высновы спадарыня Жэня.

Інакшым было яно ў бацькоўскай хаце, замужам ці ў адзіноцтве. Вігілія яе дзяцінства памалу адышла ў забыццё. Тое, што засталося, гэта ўспаміны посных, жытніх сухароў, печаных у попеле, спажываных напярэдадні Раджджаства.

— Ёлак тады не ведалі, але над сталом вешалі вялікія, прыгожыя, саламяныя павукі. Цэлую хату аздаблялі папяровымі выцінанкамі і кветкамі, — узгадвае жанчына. — Заўсёды чакалі не так першай зоркі, як усёй радні за сталом.

Прычына была даволі празаічная. Елі выключна з адной міскі. На порцыі дзяліць не было чаго, але з адной міскі наядаліся. Калі б хто спазніўся, застаўся б галодным. На вігілійным стале звычайна паяўляліся селядцы, альбо толькі салоная вада з бочкі, якую тут называлі волякам. Запівалі макам, разабраным вадой, і кампотам з сушаных яблык і груш. У верцесе падавалі куццю, якой, зачарпнуўшы тры разы лыжкай, пачыналася святочная вячэра. Гэтую верцеху потым ставілі на покуці. Туды таксама пераносілі лыжкі са стала, каб авечкі не разбягаліся пастухам. Спадарыні Жэні найбольш смакаваў аўсяны кісель. Найлепш было яго есці падагрэтым.

— Цяпер ужо ніхто яго не варыць, — сцвярджае жанчына.

Калісь у Тадзіка са Слоі, што гасподу ў Беластоку трымае, сабраліся чыноўнікі праваслаўную вігілію адзначаць. Менавіта кісялём спадарыні Жэні частаваліся Тадзікавы госці.

З вігілійнага стала ў роднай хаце спадарыні Жэні не прыбіралі. Усё заставалася наначот для душ. Вымалі толькі сена з-пад абруса. Ім варажылі ці лён будзе плённым, а таксама кармілі жывіну, каб здарова вялася.

У першы дзень святаў гасцей прымалі свойскімі каўбасамі, сальцісонамі і гарэлкай. Да замужняй ужо Жэні заўсёды заходзіла родная бабуля, якая жыла адна. Тут святкавала і свякроў. Потым, калі яна памерла, Жэня і Іван святкавалі ўдваіх.

— Як ёсць, так трэба жыць, — мудра павучае спадарыня Жэня.

Пасля смерці мужа Жэня сустракала Каляды ў хаце сваёй, на пяць гадоў старэйшай, сястры. Многа людзей там збіралася: і дзеці, і ўнукі, і праўнукі, весела было. Цяпер сястра жыве з дзяцьмі ў Беластоку. Апошнія гады бабуля праводзіць час у сяброўстве з суседзямі — прыезджымі, католікамі. Памагаюць сабе, падтрымліваюць адзін аднаго, запрашаюць дахаты. У іх Жэня адзначала каталіцкае Божае Нараджэнне, прымала іх у сябе на праваслаўнае. У царкву на ўсяночную спадарыня Жэня ўжо не пайшла.

— Трэба асцерагацца, каб не паламацца, дбаць, каб лягчэй на той свет было адыходзіць, — тлумачыць сабе яна.

Раней жанчына глядзела святочныя праграмы, у тым ліку царкоўныя багаслужбы на каналах беларускага тэлебачання, але і гэта закончылася. Сусед на дзень нараджэння купіў ёй новую антэну і ўсё прапала. Каналаў шмат, а беларускага няма.

Усё прымае яна з незвычайным спакоем і пакорай. Хаця сама з'яўляецца асобай рэлігійнай, не здзіўляецца надта, што большасць аднавяскоўцаў забылася пра традыцыі продкаў.

— Там, пад Бельскам, вельмі дбаюць пра колішняе і ў Бога вераць. У нас іншыя людзі, нічога тут няма.

Камуна пачалася тут ужо перад вайною, а калі камуна, дык не царква. Таму ў вёсцы ніколі калядак не спявалі. Чулі іх толькі ў царкве ў Самагрудзе. А яшчэ ў тэлевізары можна было паглядзець як на Бельшчыне ці Гайнаўшчыне калядуюць. Са звяздой пачалі тут хадзіць гадоў таму дзесяць. Звычай увялі пакойны бацюшка Славамір Боўтрык з матушкай Евай. Яны забіралі з сабой навакольных дзяцей. За заробленыя грошы куплялі падсвечнікі і іншыя патрэбныя ў царкве рэчы, арганізавалі святочны пачастунак усім калядоўшчыкам. Цяпер ходзяць па вёсках дзеці царкоўнага старасты з Сухініч. Дзвярэй перад імі не зачыняюць, плацяць хто колькі можа. Мо сёлета прыйдуць?

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## www.myadel.info

Нягледзячы на даволі актыўны распаўсюд інтэрнэту за апошнія гады, у Беларусі яшчэ даволі цяжка знайсці сайты невялікіх мястэчак, дзе была б пададзена агульная і разам з тым усебаковая інфармацыя аб той мясцовасці. Магчыма, не ў кожным з такіх мястэчак хапае руплівцаў, згодных зрабіць гэта не за грошы, а за звычайны інтарэс, можа папросту бракуе любові да родных мясцін. Разам з тым некаторым малым гарадам беларускай краіны ў гэтым дачыненні пашанцавала. Адным з іх з'яўляецца Мядзел — мястэчка, якое „кіруе" беларускім „морам" — знакамітым возерам Нарач. Справа ў тым, што возера знаходзіцца ў Мядзельскім раёне, больш за палову тэрыторыі якога займае нацыянальны парк «Нарачанскі».

Паколькі Мядзельшчына мае такую сапраўды ўнікальную „нарачанскую" адметнасць, то будзе карысным пазнаёміцца з сайтам, дзе пра тую мясцовасць распавядаецца вельмі падрабязна і цікава.

Калі інтэрнэтны карыстальнік зазірне на „Інфармацыйна-гістарычны партал Мядзельскага раёна", што месціцца па адрасе **www.myadel.info**, то перад яго вачыма адкрыецца цікавае выяўленне, якое нагадвае фотаздымак горада з вышыні птушынага палёту. Пры гэтым некаторыя будынкі пазначаныя маркерамі ўласнай адметнасці — ці гэта гарадскі амфітэатр, ці мясцовы рэстаран альбо кавярня, ці гарадскі дом культуры альбо возера. Незвычайнае афармленне прымушае пазнаёміцца з сайтам бліжэй, і ўнізе, і ўверсе выяўлення лёгка знаходзіш выйсці на шматлікія рубрыкі.

„Партал Мядзельскага раёна задумляўся як інфармацыйна-гістарычны, а што гэта значыць? Акрамя таго, што тут можна знайсці апошнія навіны з жыцця Мядзела і наваколля, усяго раёна цалкам, у нас таксама можна прачытаць і даведацца цікавыя гістарычныя факты з жыцця старажытнага Мядзела, што было ў старажытнасці, хто і як кіраваў Мядзелам, пра цяжкія страты ў гістарычнае мінулае нашай малой радзімы", — прадстаўляюць свой сайт яго стваральнікі. Праўда, гэтае прадстаўленне месціцца чамусьці не на галоўнай старонцы, а ў рубрыцы з даволі дзіўнай у даным выпадку назвай — „Інфармацыя". Там таксама месцяцца расповеды пра вышэйзгаданыя аб'екты гарадской мядзельскай інфраструктуры.

Пры гэтым знайсці нейкую інфармацыю пра ўладальніка сайта аказалася немагчыма, нягледзячы на тое, што кожная рубрыка мае невялікую яе прэзентацыю ад першай асобы. Адзіная персаналізацыя, датычная інфармацыйна-гістарычнага партала, месціцца ў ніжнім правым вугле выяўлення, дзе гаворыцца пра яго распрацоўку — яна належыць Валерыю Кацкелю.

Што тычыцца апісання Мядзельскага краю, яго сучаснага і мінулага, то яно падзелена на такія рубрыкі як „Мядзельскі азёрны край", „Карты", „Легенды", „Са старажытных часоў", „Ішла вайна народная...". Практычна на кожнай старонцы мы знойдзем апісанне мядзельскіх вёсак — як зніклых, так і жывых.

А вось рубрыка „Навіны і падзеі" не зусім адпавядае ані сваёй назве, ані вышэйпапдзенай прэзентацыі сайта. Ніякага абнаўлення яе хаця б раз на месяц няма. Магчыма, гэта з таго, што дакладна невызначаны ўладальнік сайта надта добра падумаў аб сваіх земляках, калі заклікаў іх даваць інфармацыю ў гэтую рубрыку. Відаць, трэба было разлічваць выключна на свае сілы. Таму апошняе навіннае паведамленне датуецца леташнім кастрычнікам і носіць збольшага рэкламны характар.

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

### Святар «шыпілаўскай пары»



## 130 гадоў з дня нараджэння Адама Лісоўскага

Беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар Адам Лісоўскі нарадзіўся 18 студзеня 1884 г. у вёсцы Каранды Ашмянскага павета (цяперашні Смаргонскі раён).

Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, пасля Мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію ў Пецярбургу ў 1906 г. У сталіцы Расіі пазнаёміўся з беларускамоўнымі клірыкамі — Францішкам Будзькам, Францішкам Грынкевічам ды іншымі. У гэтай акадэміі бібліятэкарам працаваў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, які пазітыўна ўплываў на беларускую свядомасць навучэнцаў, фармаваў цэлы асяродак. Гэты час навукоўцы нават называюць «шыпілаўскай парой».

Лісоўскі быў пасвечаны ў святары ў 1907 г. Вучыўся на захадзе ў Інсбруку (Аўстрыя, 1908-1909), Мюнхене (1909-1910). Душпастырскую дзейнасць вёў у парафіях Беларусі і Расіі. Калі быў у Расіі, то спярша быў прызначаны капеланам мужчынскай гімназіі ў Пецярбургу, пасля пераведзены філіялістам у Сумы, потым — на прэфекта школ у Маскве. У розны час служыў у Магілёве, Мінску, Гарадзішчы, Ігумене, Анопалі. Спрыяў увядзенню беларускай мовы ў жыццё касцёла. Да з'езду беларускіх ксяндзоў у Мінску ў 1917 г. падрыхтаваў адмысловы рэферат «Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцельнага, а таксама да акцыі каталіцкай у Беларусі». З 1917 г. служыў у касцёлах Міншчыны. У 1922 г. узначаліў Мінскі дэканат. Рашуча выступіў супраць канфіскацыі касцельнай маёмасці. Арыштаваны савецкімі чэкістамі 31 траўня 1922 г., прыгавораны да смяротнага пакарання, якое аднак было заменена 5 гадамі зняволення. Сядзеў у турмах Мінска, Масквы (у «Бутырцы»), Яраслаўля. 28 красавіка 1924 г. у выніку абмену палітвязнямі перададзены польскім уладам. Служыў у Гарадзішчы каля Пінска і ў Вышках на Падляшшы, быў канонікам Пінскага капітула.

Лісоўскі вядомы таксама як перакладчык. Пераклаў на беларускую мову кнігі Новага Запавету: Апакаліпсіс, Апостальскія дзеі, лісты св. Паўла.

Дзейнасць Адама Лісоўскага ацэньваюць па-рознаму, адны лічаць яго праваднікам польскай палітыкі, прыводзячы аргумент, што Лісоўскі ўваходзіў у склад Рады Польскага таварыства «Асвета» ў Мінску, якое арганізавала сакрэтнае польскае навучанне і ўзмацняла польскую нацыянальную свядомасць на Міншчыне. Іншыя залічваюць Лісоўскага да заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху, сцвярджаючы, што ён вельмі паспрыяў Адаму Станкевічу і Аляксандру Астрамовічу (Андрэю Зязюлю) і іх беларускую нацыянальную свядомасць. Яны сапраўды называлі Лісоўскага сваім духоўным хросным бацькам. Дакладна вядома, што Лісоўскі яшчэ клірыкам пісаў лісты да сваіх бацькоў па-беларуску, у час вакацый у Карандах размаўляў на роднай мове, даваў жыхарам беларускія кніжкі.

Памёр Лісоўскі ў Варшаве 9 кастрычніка 1929 г. Пахаваны ў Кляшчэлях паводле жадання побач са сваім духоўным апекуном ксяндзом Адольфам Пласкавіцкім.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Сымон Будны — актуальны?

Ранейшым часам быў я падаў здагадку, што выдатны беларускі асветнік Сымон Будны можа выводзіцца з Беласточчыны, а дакладней — з мясцовасці Будна каля Ганёндза. Зараз прапаную пазнаёміцца з некаторымі ягонымі выказваннямі, прыведзенымі ў галоўным яго рэлігійна-філасофскім творы *Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры*, выдадзеным у 1576 годзе, недзе пад ягонае саракапяцідзесяцігоддзе. Калі *Катэхізіс, то есть наука стародавная хрістіанськая от Светого Пісма для простыхъ людей языка рускаго, въ пытаніахъ і отказахъ събрана* з 1562 года быў напісаны па-беларуску, то ўжо *Палажэнні* былі напісаны на польскай мове: ***O przedniejszych wiary chrystyjańskiej artykulech, to jest o Bogu jedynym, o Synu Jego i o Duchu Świętym.*** Адным з дэвізаў кнігі з'яўляецца цытата з Першага паслання апостала Іаана: „Не кожнай душы верце, але прыглядайцеся, ці да Бога яна, бо шмат цяпер ілжэпрарокаў з'явілася ў свеце...”.

Чаму Сымон Будны апублікаваў свае *Палажэнні*? Бо не толькі пра яго, але і пра ягоных аднадумцаў „**sprzeciwnicy naszy dziwnie szacują i potworne mnimania o nas sieją. Tu u nas, a zwłaszcza na Litwie, barzo wielki głód na takie uczyciele, którzyby o tych artykulech szczyrą naukę ubogim duszam podawać chcieli. Wszytcy się tam pospolicie cisną, gdzie tłustsza polewka, a gdzie by w łasce i powadze być; rzadki kto za Chrystusem ubogim, urąganie jego niosąc, idzie**”. Мала шчырых настаўнікаў, — дадае ён, — таму я гэтыя кнігі ў свет выпусціў, каб з чытання людзі знаёміліся з Богам адзіным, і Сынам Ягоным, а ўяўных багоў адкідалі. Бо вядома, што не толькі з пропаведзяў і прароцтваў, але і з чытання знаёмяцца людзі з праўдамі і памылковымі поглядамі. Дзеля гэтага напісаў я гэтую кнігу, прызначаючы яе верным, прагным праўды простым людзям, каб яе чыталі і не дазвалялі збіць сябе з панталыку рознымі фокусамі. Не стаўлю мэтай спрэчак за веру, бо спрачаюцца бязбожнікі. А набожны мае помніць, што сварка з'яўляецца такім жа грахом, як ідалапаклонства, блуд або чары. Бо ўжо бачу, што настаў час, пра які прарочыў сам Сын Божы, калі змагаюцца фальшывыя прарокі і збавіцелі, і рознымі фокусамі зводзяць людзей у зман, якія нічога іншага не робяць, толькі прыкідваючыся святошамі ў вялікія капканы бедныя душы ловяць. Таму, браты дарагія, ці вы з высокіх саслоўяў, ці з ніжэйшых слаёў грамадства, чытайце мае кнігі, а яны будуць вам пуцяводным, згодным са Свяшчэнным Пісаннем, павадком у кожнай справе. Я свядомы таго, што не ўсё, што тут напісана, усім спадабаецца, не толькі праціўнікам, але і сябрам. Будуць мяне ганіць, так як нядаўна ганілі за тое, што Новы Запавет без дазволу цэнзуры выдаў. А гэта глумленне духа, дазвол панаванню чужой веры, а гэтага апостал забараняе. Самі ж бачыце, да чаго вядзе такая папская дысцыпліна, калі нельга і паловы карткі надрукаваць без дазволу. Я не асуджаю такой дысцыпліны, якая не дазваляе друкаваць блюзнерстваў або плётак, але не хвалю дамагання, каб на ўсё прасіць дазволу. Дары Божыя бываюць розныя, але ніхто не мае іх усіх. І не можа так быць, каб у грамадзе нехта лічыў сябе ўсёзнаўцам. Кожны з нас хоча ведаць усё і ва ўсім мець спор, але гэта не заўсёды пахвальнае. Няхай кожны займаецца тым, што добра авалодаў.


O przedniejszych Wiary Christiańskiey Artikulech, To iest, o Bogu iedynem, o Synu ie°, y o Duchu Swiętem, Wyznanie proste z pisma świętego, przez Symona Budnego krótko spisane, a za zezwoleniem Braciey niektorey w Litwie y na Rusi wydane.
Ktemu Obrona tegoż wyznania broniąca, przez tegoż napisana.
K Rzimianom 10. wirsz 10. Sercem bywa wierzono ku sprawiedliwości, a usty bywa wyznano ku zbawieniu.
Drukowany w Łosku, przez Jana Karcana z Wieliczki, Roku od narodzenia syna Bożego, 1576.

Далей Сымон Будны праводзіць свае антытрынітарныя канцэпцыі. І тут, у гэтай тэалагічнай спрэчцы, прымяняецца вядомы, мабыць таксама тады, прынцып: закон, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла; датычыць гэта і Закону Божага. Вось для пачатку чарговых разважанняў Будны прыводзіць цытату з 1 Паслання апостала Паўла Цімафею: „Бо Бог адзіны, адзіны і пасраднік паміж Богам і чалавекам, чалавек Ісус Хрыстос” (1 Цім., 2; 5). Прыхільнікі ж догмы пра Святую Тройцу карысталіся іншай вытрымкай, запаветам Ісуса Хрыста з Евангелля ад Мацфея: „Ідзіце вучыць усе народы хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа” (Мф, 28; 19). Сачыць за далейшымі тэалагічнымі спрэчкамі не буду, бо, згодна падказцы Буднага, выпадае займацца толькі тым, што сам добра авалодаў. А ў гэтай дзялянцы, якой з'яўляецца тэалогія — так мне прынамсі падаецца — знаўцы займаюцца адно здагадкамі. Тут адбываецца нешта накшталт будовы Вавілонскай вежы, дзе цікаўны народ намагаецца заглянуць за нябесныя тайны, узводзячы свае тэалагічныя вежы. І тут, так як у біблейскай старажытнасці, будаўнікі тэалагічнай вежы гавораць на розных мовах, не дапрацаваўшыся нейкага тэалагічнага *эсперанта* і не прыняўшы нейкай тэалагічнай *lingua franca*.

Для чаго ж тады я закрануў гэтую надта рэлятыўную справу, якой з'яўляецца тэалогія? А толькі дзеля таго, каб прыцытаваць агульнае выказванне нашага, здаецца, земляка Сымона Буднага, што і зараз, так як і калісь, ***wszytcy się tam pospolicie cisną, gdzie tłustsza polewka, a gdzie by w łasce i powadze być; rzadki kto za Chrystusem ubogim, urąganie jego niosąc, idzie.*** Што наш свет рэлятыўны — не толькі ў фізічным, Эйнштэйнавым, сэнсе — але і ў больш агульным, і ягоны выгляд залежыць ад месца знаходжання назіральнікаў: у полі зроку адных ён шпарка мяняецца, з іншага ж пункту гледжання — свет стаіць у адным месцы.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Запрашэнне да спявання калядак

24 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры (ГАК) у Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца Гмінны агляд „Звязда і каляда — Нараўка-2014”. Пачатак мерапрыемства а гадзіне 15.00.

Арганізатары — ГАК і Гмінная ўправа ў Нараўцы — ужо сёмы год запар запрашаюць на сцэну калядоўшчыкаў: дзяцей, моладзь і старэйшых са звяздамі. Усе яны — так было дагэтуль — ахвотна прыязджаюць. Заявы да ўдзелу прымаюць у ГАК да 21.01.2014 года.

* * *

20 студзеня г.г. у Гайнаўскім доме культуры (ГДК) адбудзецца гала-канцэрт найлепшых выканаўцаў Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнымі калядкамі. Пачатак а гадзіне 16.00.

Варта дадаць, што ўжо шмат гадоў сустрэчы з праваслаўнымі калядкамі арганізуюць Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы і ГДК.

**(яц)**

# 19.01 — 25.01

**(22.03. — 20.04.)** 22-26.01. хутка ўсё трапна выпрашыш і лёгка наладзіш новыя кантакты. Выберыся ў падарожжа з сябрамі. Арыгінальныя думкі, азарэнні, прасвятленні — усяго гэтага ў цябе будзе ў лішку, але не спяшайся рэалізоўваць усе ідэі ў адзін дзень, інакш чакае поўны правал. Прыкмета: надзець памылкова вопратку задам наперад — быць бітым.

**(21.04. — 21.05.)** Старайся весела праводзіць час. Калі ілжывы гонар перашкаджае спыніць табе сварку з каханым чалавекам, зрабі першы крок да прымірэння. Калі ў панядзелак з раніцы да поўдня ў цябе «гараць» шчокі і вушы, гэта абяцае новыя любоўныя сувязі. Не дайся намовіць на інвеставанне ў нейкія няясныя інтарэсы і замарожванне капіталу.

**(22.05. — 22.06.)** Твая паспяховасць будзе прыкмечана і ацэнена кіраўніцтвам і калегамі. Шыкуецца павышэнне, нейкія амбітныя заданні, якія прынясуць табе задавальненне і ўзмоцняць тваю прафесійную пазіцыю. Хапай жыццё за рогі, а здабудзеш каханне, касу і поспехі. Асцярожна падыходзь да парад малавядомых людзей. З 23.01. апаскі, боязь і стома.

**(23.06. — 23.07.)** Няхай твой стол будзе багаты ў квашаную зялёную гародніну, цытрусы і зерне. Асцярожна з кавай, алкаголем і ласункамі. Могуць дакучаць суставы (занядбанае захворванне можа турбаваць пару месяцаў). Самотны Рак няхай будзе асцярожны — можа паявіцца хтосьці чароўны, ды несумленны.

**(24.07. — 23.08.)** Няхай дзверы тваёй хаты заўжды будуць адчыненыя для сяброў. Хопіць табе сілы і энергіі, як і цвярозага пагляду на свет. Важную ролю ў жыцці на гэтым тыдні могуць адыграць людзі, ад якіх ты гэтага зусім не чакаеш. Паспрабуй не канфліктаваць з начальствам у панядзелак. Аўторак спрыяльны для тых, хто займаецца інтэлектуальнай працай.

**(24.08. — 23.09.)** 19-21.01., дзякуючы сваёй пранікліваcці, можаш адкрыць штосьці важнае. З 23.01. сітуацыя можа цябе пераросці. Тваё становішча цяпер даволі хісткае, можна сказаць, што балансуеш над прорвай, аднак не варта паддавацца паніцы. Займіся грамадскімі справамі. Старанна сплануй свае дзеянні, паспрабуй нічога не выпусціць, і тады будзе забяспечаны поспех.

**(24.09. — 23.10.)** На гэтым тыдні можаш здзейсніць учынкі, аб якіх у далейшым будзеш шкадаваць. Твае сакрэты могуць быць раскрыты. Кантралюй свае паводзіны, не давай волі эмоцыям і пачуццям, і зможаш пазбегнуць незваротных наступстваў. У панядзелак не бойся брацца за самыя дзёрзкія планы. Серада спрыяльная для зносін і завязвання новых дзелавых кантактаў.

**(24.10. — 22.11.)** 20-24.01. вялікі прыліў энергіі. З 23 (да 27.01.) плыві з ходам падзей, не мяняй нічога сілай, адчакай, страт не будзе. Авалоданне сабою гэта ключ да ўсяго ў працы і фінансах. Пільнуйся, каб грошы не ўцякалі праз пальцы. Калі хочаш перамагчы сур'ёзнага канкурэнта, давер сваёй інтуіцыі.

**(23.11. — 22.12.)** У пачуццях крыху жарснасці, шмат зайздрасці. Стрымай сваё абжорства, спальвай калорыі спортам. Гэта будзе неспрыяльны час для калектыўных заняткаў або сумесных мерапрыемстваў, аднак усё ў плане індывідуальнай творчасці будзе паспяхова рэалізавана. Перанясі на іншы час запланаваны на гэты тыдзень паход у кіно ці тэатр. Будзь асцярожны з малазнаёмымі.

**(23.12. — 20.01.)** 22-26.01. будзеш адораны воляй змагання, адчаем, баявітасцю. Зможаш парвацца на вялікае і здабыць відны поспех. Многа надакучыць табе пазваночнік. Адмоўся ад вельмі прывабнай прапановы, якая будзе падманам. Не раскідвай абы-дзе сваіх асабістых рэчаў.

**(21.01. — 19.02.)** 22-26.01. будзеш адчуваць сябе стому, расслабленасць, лепш цяпер не сядай за руль. Добры тыдзень напоўнены рухам, моцнымі эмоцыямі і пачуццямі. Знайдзі новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Дзейнічай актыўна і рашуча.

**(20.02. — 21.03.)** Паявіцца асоба, якой варта даверыць. Але не дайся намовіць на нiякую «цудоўную» нагоду, бо гатовы адны страты. Бізнесменаў на гэтым тыдні чакаюць непрыемныя сюрпрызы з боку дзелавых партнёраў. З катэгорыі роўных партнёраў вас паспрабуюць перамясціць на прыступку ніжэй — у разрад залежных і падначаленых.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — албанскую пагаворку.

1. дакучлівае насякомае з джалам = 7 _ 2 _ 5 _;
2. бесцялесная звышнатуральная істота = 10 _ 1 _ 6 _;
3. прадмет = 4 _ 16 _ 15 _;
4. крамлёўскі ўладар = 13 _ 9 _ 8 _;
5. лодка з ветразем = 14 _ 12 _ 3 _ 11 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Абедня, багна, бей, грошы, дзяды, Пацей, сук, шчака.

Рашэнне: **Скупы багацей бяднейшы за шчодрага бедняка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 | 16 |

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Мода на Грузію (ч. 3)

**Грузінскі дух можна пабачыць на свае вочы. Яго ўяўляе дваццаціметровая скульптура з алюмінію ў самым стаптаным турыстамі месцы, на гары ля крэпасці Нарыкала ў Тбілісі. Гэта Картліс Дэда — Маці Грузія. У левай руцэ жанчына трымае чарку з віном, у правай — меч. Келіх з левай рукі прызначаны для мірных падарожнікаў, якія прыязджаюць сюды з добрым намерам. Невыпадкова грузінаў называюць самым гасцінным народам у свеце. Грузінская гасціннасць мае таксама свой толк і цану. Той другі рэквізіт, то-бок меч, падрыхтаваны яўным і прыхаваным ворагам, які прыязджаюць з варожымі думкамі і дрэннымі намерамі. Манумент узведзены ў 1958 годзе з выпадку 1500 гадавіны заснавання горада.**



Праўда, каб сустрэцца з духам краіны, неабавязкова перціся ў сталіцу. Сустрэча можа адбыцца ў любым месцы, напрыклад, на базары, ля манастыра, у маршрутцы, у горах або над Чорным морам... Прытым дух краіны часта ўвасабляецца ў асобу стараватага расказчыка, які сам навязваецца ў знаёмых.

З Міхаілем мы пазнаёміліся ў маршрутцы. Ён спачатку доўга і нахабна ўзіраўся, з-за чаго рабілася няёмка. Пасля першы завёў дзіўную гамонку. На пачатку ён пашкадаваў, што не ведае англійскай мовы... Паколькі апошнюю засцярогу выказаў па-руску, мы прапанавалі яму гаварыць на гэтай жа мове.

— А вы хто? — спытаў Міхаіль і тэатральна скрывіўся, быццам перажоўваў лімон. Пасля клапатлівай цішыні ў расказчыка перамагла ці то цікавасць, ці дзелавітасць.

— Няма рады, — развёў ён тэатральна рукамі і яго жэст гаварыў нешта такое прэзідэнцкае: *nie chcę, ale muszę.*

* * *

Менавіта, каб дацаніць польскіх прэзідэнтаў, трэба паехаць у Грузію. Кожны грузінскі мужык раней ці пазней назаве імя Леха Качынскага. У Тбілісі ў гонар польскага прэзідэнта паставілі бюст і назвалі яго імем сквер. На пачатку знаёмства амаль усе грузіны пыталі нас:

— А вы з Украіны ці з Расіі будзеце?

Калі ў адказ мы называлі Польшчу, усе як адзін муж спачатку заяўлялі сваю сімпатыю да палякаў, а пасля называлі імя Леха Качынскага.

Вось і Міхаіль пачаў хваліць прэзідэнта:

— Ён напалохаў рускіх! — сказаў — А так можа ўжо не было б Грузіі.



Хоць апошняя звестка падалася нам сенсацыйнай, яна па-іншаму ўспрымалася ў маршрутцы. Грузінскі народ, у параўнанні з Польшчай, маленькі. На сённяшні дзень у краіне паміж Вялікім і Малым Каўказам пражывае 4,6 мільёна насельніцтва. Чуць не другая палова пражывае па-за сучаснымі межамі краіны. Найбольш, бо аж паўтара мільёна, у Турцыі. У Расіі, з якой звязаная Грузія з канца XVIII стагоддзя, пражывае мільён суродзічаў. Яшчэ шэсцьсот тысяч у Іране. Меншыя дыяспары знаходзяцца ў Арменіі і Азербайджане.



— Нас рэзалі з кожнага боку, — цяжка ўздыхнуў Міхаіль, — з кожнага боку рэзалі...

Каб не раздзіраць свежыя раны, якія нанесла вайна з Расіяй у 2008 годзе, ён павярнуў гутарку ў залаты век, значыць у XII стагоддзе:

— За цара Давіда, наша краіна цягнулася ад мора да мора!

Мы памяталі пра добрыя рады і непярэчылі расказчыку ды не патрабавалі назваць тыя моры на Каўказе.

* * *

Культ асобы Леха Качынскага ў Грузіі раз пазітыўна здзіўляў, іншы раз насцярожваў. Згодна з каўказскім замілаваннем да гандлю, грузіны часткова перакавалі легенды ў турыстычны атракцыён, на якім ужо падзарабляюць.

— Паехалі да Леха Качынскага! — прапанаваў нам адзін таксіст у Тбілісі.

Помнік трагічна загінуламу пад Смаленскам прэзідэнту быў адкрыты 12 красавіка 2012 года. Паколькі знаходзіцца ён на акраінах сталіцы, неабходна пакарыстацца прапановай таксістаў. Месца ахвотна наведваюць палякі, якія на варшаўскую моду паляць пад помнікам намагільныя знічкі. Гэтым духам прасяклі нават грузіны, якія ахвотна апавядаюць пра сяброўства Леха Качынскага і Міхаіля Саакашвілі. Асабліва пра тое, як іх прэзідэнт пераадолеў чорную хмару і як адзін з нямногіх кіраўнікоў дзяржаў паспеў на пахаванне Леха Качынскага. У Польшчу ён дабіраўся на самалётах праз Амерыку, Партугалію, Італію, Турцыю, Балгарыю і Румынію. Як вядома, у тым самым часе ўспыхнуў вулкан у Ісландыі, які стрымаў рэйсы самалётаў...

Грузінская траўма зусім іншая як славянская. Яна не адбірае моцы і, быццам добра загартаванае жалеза, адразу перакоўваецца ў сілу.

Тут таксама не любяць абносіцца з сімваламі смерці. Падарожнічаючы па краіне, мы нідзе не бачылі могілак.

Раз, калі пакідалі маршрутку, шафёр кінуў на развітанне:

— Завязіце прывітанне Леху Качынскаму!

У нас склалася ўражанне, што ён не адрозніваe братоў блізнюкоў... Ён шырока заўсміхнуўся добрай, адкрытай усмешкай.

* * *

Наш Міхаіль без спеху складаў словы і зусім не хацеў трапляць у граматыку рускай мовы. Калечыў вымаўленне. Мы не падыходзілі яму да палякаў, якіх сустракаў ужо неаднойчы на сваім шляху і якіх ведаў лепш як сваю жонку...

— Адкуль жа вы рускую мову ведаеце? — запытаў урэшце.

Здзівіла яго веданне рускай мовы ў палякаў. У пэўны момант ён сказаў:

— Бо мая дачка ўжо зусім не кумекае па-расейску, толькі па-англійску размаўляе.

— Яна філолаг-англіст? — пацікавіліся мы.

— Яна грузінскі пракурор.

Праз момант мы ўяўлялі як каўказскі мужык, закаранелы ў сваім патрыярхаце, можа ўспрыняць абвінавачанне з рук жанчыны. Наш выпадковы гід быццам пачуў крытычную думку накіраваную ў яго бок. У адказ, ні з таго, ні з сяго ён дастаў з кішэні кашалёк, у якім захоўваў свой найбольшы скарб.

— Гэта ўнук, таксама Міхаіль, — прамовіў з чуласцю і мужчынскай ганарлівасцю.

Пад уплывам мужчынскага шчасця і гонару ўсе замоўклі. Мы глядзелі праз акно, дзе ўсе надпісы былі пазначаны незразумелымі нам грузінскімі знакамі.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960